• выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

• кошт 3000 рублёў

19 верасня 1998 г. субота № 187—188 (23538—23539)



ЗВЯЗДА

# У ХЛЕБА ДОЎГАЯ ПАМЯЦЬ...

**Сёння на свяце «Дажынкі-98» краіна ўшаноўвае хлебаробаў**

**ХЛЕБ НАМ ЗАЎСЁДЫ ДАВАЎСЯ НЯЛЁГКА. Але ў гэтым годзе прырода, здаецца, вырашыла наладзіць людзям сапраўднае выпрабаванне. І яны яго, без перабольшання, вытрымалі. Толькі дзякуючы працавітасці, стараннасці і майстэрству хлебаробаў удалося намалаціць у грамадскім сектары больш за 5 мільёнаў тон зерня. Чакаецца нядрэнны ўраджай бульбы, ільну, плодаагародніннных культур. Нарошчваецца вытворчасць мяса і малака. Як адзначыў намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Гаркун, «Беларусь не толькі здольная забяспечыць сваю харчовую незалежнасць, але і значныя аб'ёмы харчавання мы яшчэ зможам паставіць на экспарт». Менавіта ім, працаўнікам вёскі, якія найбольш вызначыліся на жніве, будуць выказаны сёння словы ўдзячнасці на рэспубліканскім свяце «Дажынкі-98», а пераможцы атрымаюць падарункі.**

**Самы высокі ўраджай збожжавых**, як, дарэчы, і ў мінулым годзе, атрыманы ў **Гродзенскай вобласці** (старшыня аблвыканкама Аляксандр Дубко), дзе ў сярэднім сабралі па 30,6 цэнтнера збожжа з гектара. У Брэсцкай вобласці гэты паказчык роўны 23,3, а ў Мінскай — 22,4 цэнтнера. **Пераможцамі рэспубліканскага спаборніцтва сярод раёнаў па ўборцы збожжавых і зернебабовых культур, якія забяспечылі атрыманне найбольшай іх прадуктыўнасці з разліку на адзін балагектар пасеваў,** вызначаны **Брэсцкі** (старшыня райвыканкама Канстанцін Бабко), **Докшыцкі** (Валерый Палідавец), **Хойніцкі** (Мікалай Садчанка), **Гродзенскі** (Мікалай Камарэц), **Нясвіжскі** (Уладзімір Дражын), **Слаўгарадскі** (Валерый Берастаў) раёны. І сярод пераможцаў ёсць лідэры — гэта Гродзенскі раён, працаўнікі якога вось ужо некалькі гадоў запар дабіваюцца найлепшых вынікаў. Сёлета яны сабралі з кожнага гектара 44,3 цэнтнера збожжа. А вось у сельскагаспадарчым калектыўным прадпрыемстве «Кастрычнік» гэтага ж раёна сярэдняя ўраджайнасць склала 62,3 цэнтнера. **СКП «Кастрычнік»** (кіраўнік Віталь Крамко), а таксама **калгас «Новы шлях» Ляхавіцкага раёна** (старшыня калгаса Іван Клішэўскі), **калгас «Усход» Дубровенскага раёна** (Мікалай Курпатаў), **калгас «Савецкая Беларусь» Рэчыцкага раёна** (Аляксандр Канякін), **калгас «Гігант» Бабруйскага раёна** (Міхаіл Левакоў), **агракамбінат «Сноў» Нясвіжскага раёна** (кіраўнік Міхаіл Карчміт) прызнаны **пераможцамі сярод калгасаў, саўгасаў і іншых сельгаспрадпрыемстваў.**

Хлеб не даруе абыякавасці. Ён патрабуе вялікіх намаганняў, руплівасці і напружанай працы ад кожнага, хто мае дачыненне да яго вырошчвання. І ўсё ж асноўную нагрузку ў гэтым ланцужку нясуць камбайнеры, якія ў час уборкі працуюць днём і ноччу. Цяжка ўявіць, колькі сіл трэба прыкласці, каб намалаціць больш за тысячу тон збожжа. Экіпажы 58 камбайнаў дасягнулі такога паказчыка. Упершыню ў краіне амаль дзве тысячы тон збожжа (1914) намалаціў камбайнер калгаса «Мірскі» Карэліцкага раёна **Уладзімір Печанко** са сваім памочнікам **Андрэем Цвірко** на камбайне «МДВ-527». Першы атрымае ўзнагароду — аўтамабіль, другі — матацыкл. Такія ж падарункі атрымаюць і іншыя камбайнеры, якія занялі **першыя месцы ў абласцях**. Сярод іх:

**Тырко Вячаслаў і Міхайлоўскі Віталь** з Брэсцкай райсельгасхіміі, якія на камбайне «Клаас» намалацілі 1820 тон збожжа;

**Макарэвіч Тадэвуш і Макарэвіч Ірына,** калгас «Прагрэс» Ляхавіцкага раёна, СК-5 «Ніва», 607 тон;

**Шарох Аляксандр і Шыталь Юрый,** саўгас «Порплішча» Докшыцкага раёна, «Дон-1500», 855 тон;

**Казлоўскі Сяргей і Маханькоў Канстанцін,** аграфірма «Ніва» Аршанскага раёна, СК-5 «Ніва», 387 тон;

**Герыловіч Мікалай і Герыловіч Іван,** калгас «Савецкая Беларусь» Рэчыцкага раёна, «Дон-1500», 1371 тона;

**Лагвіненка Васіль і Галеня Аляксандр,** саўгас «Судкова» Хойніцкага раёна, СК-5 «Ніва», 579 тон;

**Каленік Пётр і Каленік Андрэй,** калгас імя Дзеншчыкова Гродзенскага раёна, СК-5 «Ніва», 873 тоны;

**Роўба Васіль і Роўба Валерый**, калгас «Дружба» Стаўбцоўскага раёна, «Клаас», 1452 тоны;

**Уласовіч Уладзімір і Васілеўскі Ігар**, акцыянернае міжгаспадарчае прадпрыемства «Капыльскае» Капыльскага раёна, СК-5 «Ніва», 725 тон;

**Міронаў Васіль і Міронаў Сяргей,** калгас «Шлях Леніна» Горацкага раёна, «Дон-1500», 1094 тоны;

**Пакрашынскі Уладзімір і Круталевіч Аляксандр,** калгас «Усход» Быхаўскага раёна, СК-5 «Ніва», 402 тоны.

Яшчэ 24 экіпажы занялі другія месцы ў рэспубліканскім спаборніцтве на жніве, камбайнеры якіх атрымаюць халадзільнікі, а памочнікі — тэлевізары. Камбайнеры і памочнікі 36 экіпажаў, якім прысуджана трэцяе месца, атрымаюць па тэлевізару. На адвозцы збожжа вызначылася 72 вадзіцелі. 12 першых атрымаюць матацыклы, а астатнія — тэлевізары.

Такім чынам, сёння лепшыя хлебаробы будуць ушанаваны. Ім, а таксама ўсім хлебадарам краіны — шчырыя словы падзякі за добрую працу, за гаспадарлівасць, за Хлеб.

**Уладзімір АЛЯХНОВІЧ.**

## ТЭЛЕГРАМА ПРЭЗІДЭНТА

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка накіраваў тэлеграму старшыням аблвыканкамаў, Мінскага гарвыканкама, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў, міністру знешніх эканамічных сувязяў, міністру юстыцыі.

Кіраўнік дзяржавы распарадзіўся прыпыніць з 18 верасня 1998 года і да асобага ўказання Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь рэгістрацыю і перарэгістрацыю суб'ектаў гаспадарання, у тым ліку прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы.

Адказнасць за выкананне гэтага ўказання ўскладзена персанальна на кіраўнікоў названых выканкамаў і міністэрстваў.

**БЕЛТА.**

*Актуальны каментарый*

## ТРЭБА СТВАРЫЦЬ НАРМАЛЬНЫЯ ЎМОВЫ ДЛЯ РАЗВІЦЦЯ БІЗНЕСУ

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка прыпыніў рэгістрацыю і перарэгістрацыю суб'ектаў гаспадарання. Гэта рашэнне прынята пасля праведзенай 17 верасня пры ўдзеле кіраўніка дзяржавы нарады службовых асоб, дзе была разгледжана ўзнікшая негатыўная сітуацыя, выкліканая недасканаласцю дзеючай сістэмы дзяржаўнай рэгістрацыі. Па просьбе карэспандэнта БЕЛТА гэты факт пракаменціраваў старшыня Дзяржаўнага падатковага камітэта Мікалай Дзямчук.

— Яшчэ з сярэдзіны 1996 года, гэта значыць пасля выхаду Указа прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі № 208 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванню дзейнасці суб'ектаў гаспадарання», была праведзена іх перарэгістрацыя. У выніку гэтай кампаніі прыйшлося ліквідаваць дзейнасць 124 тысяч фактычна непрацуючых юрыдычных асоб і прадпрымальнікаў, што склала больш чым 45 працэнтаў ад агульнай колькасці суб'ектаў гаспадарання недзяржаўнай формы ўласнасці. Сітуацыя ўскладняецца яшчэ і тым, што больш чым пяці тысячам юрыдычных і фізічных асоб і па гэты дзень немагчыма аформіць ліквідацыю, бо няма ні заснавальнікаў, ні кіраўнікоў, ні дакументаў. А па стану на 1 верасня 1998 года за імі лічыцца запазычанасць у памеры аднаго трыльёна рублёў.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

# РОЗГАЛАС

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПРЫНЯЎ СА СПРАВАЗДАЧАЙ УЛАДЗІМІРА ЗАМЯТАЛІНА

**Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка 18 верасня прыняў са справаздачай намесніка прэм'ер-міністра Беларусі Уладзіміра Замяталіна.**

Як паведаміў БЕЛТА кіраўнік прэс-службы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Уладзімір Скварцоў, віцэ-прэм'ер праінфармаваў кіраўніка дзяржавы па некаторых аспектах стану спраў у сферах адукацыі, фізкультуры і спорту, культуры, аховы здароўя і сацыяльнай абароны.

Аляксандр Лукашэнка, у прыватнасці, звярнуў увагу на неабходнасць удасканалення ўзаемадзеяння кіраўніцтва ўрада з міністрамі і старшынямі дзяржкамітэтаў па гэтаму блоку пытанняў. Было падкрэслена, што трэба дабівацца таго, каб у сістэме кіравання існавала аднолькавае разуменне праблем як стратэгічнага, так і тактычнага характару, а таксама бягучых пытанняў. Праз адзінства ў разуменні гэтых трох састаўляючых можна забяспечыць выхад на адпаведны ўзровень арганізацыі працы кіраўніка, выканальніцкай дысцыпліны і безумоўнага выканання ўсіх прынятых дакументаў, уключаючы дэкрэты, указы прэзідэнта, пастановы ўрада і законы. Як адзначыў кіраўнік дзяржавы, ацэнка работы службовых асоб павінна вызначацца выключна па іх канкрэтных справах.

На заканчэнне Аляксандр Лукашэнка азнаёміўся з прапановамі беларускіх і расійскіх вучоных па святкаванню тысячагоддзя старажытнага горада Друцка Віцебскай вобласці. Прэзідэнт даў канкрэтныя даручэнні ў сувязі з гэтым.

**БЕЛТА.**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА АБМЕРКАВАЎ З ІВАНАМ АНТАНОВІЧАМ ШЭРАГ ВАЖНЫХ ПЫТАННЯЎ

**Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка прыняў 18 верасня міністра замежных спраў Беларусі Івана Антановіча.**

Як паведамілі БЕЛТА ў прэсслужбе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, кіраўнік знешнепалітычнага ведамства далажыў Аляксандру Лукашэнку аб пазіцыі беларускай дэлегацыі на 53-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, у прыватнасці, аб прасоўванні нашай краінай праекта рэзалюцыі, накіраванай на захаванне бяз'ядзернага статусу рэгіёна Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, а таксама аб іншых пытаннях.

Прэзідэнт даў свае ўказанні адносна пастаўленых пытанняў, асабліва падкрэсліўшы неабходнасць палітычнай работы на Генеральнай Асамблеі сярод дэлегацый краін — членаў ААН па стварэнню бяз'ядзернай прасторы ў розных рэгіёнах свету, нераспаўсюджанню ядзернай зброі, падтрымцы намаганняў генеральнага сакратара ААН, накіраваных на рэфарміраванне гэтай арганізацыі.

Акрамя таго, былі абмеркаваны пытанні знешнепалітычнага супрацоўніцтва міністэрстваў замежных спраў Беларусі і Расіі па паскарэнню працэсаў эканамічнай інтэграцыі, аднаўленню перапыненых эканамічных сувязяў паміж дзвюма дзяржавамі.

Аляксандр Лукашэнка грунтоўна выклаў свой пункт гледжання па пытаннях рэфарміравання Садружнасці Незалежных Дзяржаў, а таксама павышэння эфектыўнасці работы Сакратарыята СНД, асабліва падкрэсліўшы важнасць ажыўлення эканамічнага супрацоўніцтва паміж краінамі—членамі СНД у перыяд неспрыяльнай эканамічнай кан'юнктуры не толькі на прасторы Садружнасці, але і ў маштабах усяго еўрапейскага рэгіёна.

Была абмеркавана таксама праграма замежных паездак прэзідэнта Беларусі і візітаў дзяржаўных дзеячаў дружалюбных краін у нашу рэспубліку.

**БЕЛТА.**

## РАБОТНІКАМ ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРКІ, ЛЯСНОЙ, ДРЭВАПЕРАПРАЦОЎЧАЙ І ЦЭЛЮЛОЗНА-ПАПЯРОВАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Паважаныя работнікі лясной гаспадаркі, лясной, дрэваперапрацоўчай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці!*

*Сардэчна віншую вас, а таксама ветэранаў лясных галін, вучоных-лесаводаў, выкладчыкаў і студэнтаў навучальных устаноў ляснога профілю з прафесійным святам — Днём работнікаў лесу.*

*Лес — нацыянальны набытак і гонар Беларусі. З кожным годам павялічваецца яго эканамічная, прыродаахоўная, асяроддзеўтваральная і сацыяльная роля. Гэта прад'яўляе новыя, больш высокія патрабаванні да дзейнасці лясных галін.*

*Сёння работнікі лесу працуюць у складаных эканамічных і сацыяльных умовах, вырашаючы праблемы, звязаныя з усыханнем дрэвастояў, пашкоджаннем насаджэнняў ураганам у чэрвені—жніўні 1998 года. І прыемна адзначыць, што дзякуючы ўмеламу кіраўніцтву, зладжанай рабоце і высокай адказнасці працоўных калектываў планы сацыяльна-эканамічнага развіцця лясной гаспадаркі, лясной і дрэваперапрацоўчай прамысловасці за першае паўгоддзе 1998 года выкананы.*

*Ва ўмовах рэфарміравання эканомікі Беларусі надзвычай важна не страціць лясныя багацці, набытыя працай папярэдніх пакаленняў, захаваць глыбокія традыцыі і вопыт беражлівых адносінаў да іх. Распрацоўка, шырокае ўкараненне ў практыку больш дасканалых сістэм гаспадарання, экалагічных рэсурса- і энергазберагальных тэхналогій, машын і механізмаў, вырошчванне высокапрадукцыйных устойлівых лясоў, вытворчасць новых, канкурэнтаздольных і імпартазамяшчальных матэрыялаў — адна з прыярытэтных задач. Галоўная мэта — істотнае павышэнне ўкладу ляснога сектара эканомікі ў валавы ўнутраны прадукт.*

*Выказваючы шчырую ўдзячнасць работнікам лесу за нялёгкую, самаадданую працу, жадаю ўсім, хто прысвяціў сваё жыццё служэнню беларускаму лесу, моцнага здароўя, аптымізму, дабрабыту, шчасця, новых поспехаў у высакароднай справе захавання, прымнажэння і рацыянальнага выкарыстання лясных багаццяў нашай роднай Беларусі.*

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь С. ЛІНГ.**

## «ЛЁД» КРАНУЎСЯ. НАРЭШЦЕ

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, з 25 жніўня агульная сума запазычанасці па заробках вяскоўцам зменшылася прыкладна на 70 працэнтаў.**

Адной з прычын гэтага змяншэння, на думку спкцыялістаў міністэрства, можна назваць практыку разлікаў «натураплатай», якая з'явілася апошнім часам, і перш-наперш збожжам сёлетняга ўраджаю. Тым не менш, зрухі відавочныя. Так, калі зусім нядаўна ў краіне існавалі даўжнікі за люты-сакавік, то, паводле аператыўных даных на 11 верасня, на гэтую дату заставалася ўсяго адно сельскагаспадарчае прадпрыемства, якое не здолела разлічыцца са сваімі работнікамі за май. Выплата чэрвеньскіх заробкаў затрымлівалася на 106 прадпрыемствах АПК, ліпеньскіх — на 1051. Дарэчы, менавіта на ліпень прыпадае асноўная частка цяперашняга доўгу — каля 379 млрд. рублёў.

**Сяргей ГРЫБ.**

### ПАВЕДАМЛЕННЕ

**Аб сярэднямесячнай заработнай плаце рабочых і служачых**

Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя налічаная заработная плата рабочых і служачых у жніўні 1998 года склала 4.682.736 рублёў (у ліпені 1998 года была 4.620.084 рублі) і павялічылася ў параўнанні са жніўнем 1997 года ў 1,9 раза.

## Хроніка апошніх падзей

■ **У падмаскоўнай рэзідэнцыі прэзідэнта Расіі** прайшла нефармальная сустрэча Барыса Ельцына і Леаніда Кучмы. Яны абмеркавалі пытанні міждзяржаўных адносінаў, у прыватнасці, праблемы стварэння зон свабоднага гандлю. Паралельна новы расійскі прэм'ер Я. Прымакоў правёў перамовы з украінскім калегам У. Пуставойценкам.

■ **Дзяржаўны сакратар ЗША** М. Олбрайт заявіла, што міжнародная супольнасць гатова дапамагчы Расіі ў пераадоленні фінансавага крызісу, але толькі ў выпадку, калі расійскае кіраўніцтва зможа прыняць жорсткія рашэнні. Выступаючы ў Вашынгтоне, Олбрайт падкрэсліла, што расійскія лідэры зробяць памылку, калі адвернуцца ад міжнароднай супольнасці. «Яны не ў стане ізаляваць сябе ад сусветнага рынку», адзначыла Олбрайт.

■ **Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка** заявіў, што Масква павінна была загадзя папярэдзіць сваіх партнёраў па СНД аб сур'ёзнасці фінансавага крызісу, які набліжаўся. «Аднак гэтага не адбылося, таму і мы панеслі страты», — сказаў А. Лукашэнка ў гутарцы з журналістамі. Прэзідэнт Беларусі лічыць мэтазгодным абмеркаваць з расійскім кіраўніцтвам праблемы, звязаныя з фінансавым крызісам. «Сёння Расія ў многім бярэ на ўзбраенне тыя прынцыпы, па якіх даўно працуе Беларусь», — падкрэсліў Лукашэнка.

■ **Прэзідэнт Албаніі Мейдані** і Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе заклікаюць насельніцтва не ўдзельнічаць у агульнанацыянальнай акцыі пратэсту, якую збіраецца правесці сёння апазіцыя пад лозунгамі адстаўкі ўрада. Улады папярэдзілі, што завадатары беспарадкаў будуць бязлітасна пакараны. На чарговым масавым мітынгу ў Тыране лідэр апазіцыі, былы прэзідэнт Албаніі Берыша заклікаў албанцаў паўстаць супраць урада сацыялістаў. Сёння ў парламенце краіны павінна адбыцца галасаванне па рэкамендацыі парламенцкай камісіі пазбавіць Берышу дэпутацкай недатыкальнасці. Чакаецца, што парламент падтрымае гэтае рашэнне.

■ **Трэць усяго жыллёвага фонду Архангельска** засталася без газу і вады. 28 тысяч кватэр адключаны ад газу, паколькі ў гарадскіх уладаў няма грошай на яго закупку, а сёння трэць жыхароў Архангельска засталася яшчэ і без вады з-за буйной аварыі на водаправодзе. Аварыйным службам пакуль не ўдаецца знайсці месца разрыву трубы — няма патрэбнага абсталявання. Па ацэнках спецыялістаў, на аднаўленне водаправода спатрэбіцца не менш чым два тыдні.

■ **Федэральныя ўлады ЗША** абвінавацілі яшчэ аднаго чалавека ў дачыненні да выбуху 7 жніўня ў Кеніі. Ураджэнец Каморскіх астравоў Харун Фазіль стаў, такім чынам, трэцім абвінавачваемым па справе аб выбуху ля амерыканскага пасольства ў дзвюх афрыканскіх краінах. Яму ў віну ставяцца ўдзел у плане тэрарыстычнай аперацыі і арэнда вілы ў Найробі, дзе збіралася выбуховае прыстасаванне. Лічыцца, што Фазіль праходзіў трэніроўку ў Афганістане. Ён уваходзіў, як мяркуецца, у кенійскую групу міжнароднай тэрарыстычнай арганізацыі, якую ўзначальваў саудаўскі мільянер бен Ладэн.

**Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.**

*СПАЖЫВЕЦ*

## Як зрабіць, каб футра грэла душу як мага далей?

Першае пытанне, на якое павінны самі сабе адказаць жанчыны, якое футра ім патрэбна: больш таннае, але недаўгавечнае, ці тое, якое будзеш насіць шмат гадоў, але дарагое. Самым даўгавечным футрам лічыцца футра паўводных жывёл — выдры, бабра і марскога коціка. Вельмі практычныя і даўгавечныя ў носцы таксама норка, собаль і пясец. За імі ідуць нутрыя (пяцьшэсць сезонаў), шэры і чорны козлік (пяць-шэсць), андатра і ліса (пяць сезонаў). «Аўтсайдэрам» жа ў рэйтынгу практычнасці ўсімі спецыялістамі аднадушна прызнаецца футра з кроліка. Гэтае футра прыгожае толькі пакуль яно новае, а ў працэсе носкі футра з кроліка яго поўсць хутка абломваецца, валасяное покрыва страчвае свой бляск, на ім з'яўляюцца матавыя плямы. Больш даўгавечнае футра са стрыжанага кроліка, якое мае роўную паверхню.

Горш, чым «паўнацэннае» будзе служыць вам і футра, пашытае з маленькіх кавалачкаў. Вырабы з лапак і жыватоў могуць праслужыць усяго два-тры сезоны. Самымі якаснымі ў свеце лічацца футры, пашытыя ў Еўропе: у Італіі, Францыі, Германіі і г. д. Але гэтыя тавар даступны па цане толькі адзінкам, бо выпускаецца маленькімі эксклюзіўнымі партыямі. На рынках жа часцей за ўсё сустракаецца грэчаская, карэйская, кітайская і турэцкая прадукцыя.

Лепш за ўсё аддаць перавагу футрам з Грэцыі, бо на сённяшні дзень гэта краіна з'яўляецца лідэрам у «футравай» вытворчасці. Яна ўзнікла тут каля 300 гадоў таму, калі мясцовыя ўмельцы распрацавалі сваю ўласную тэхналогію роспуску шкурак. А зараз сюды да майстроў сцякаецца ўжо і канадская, і скандынаўская, і руская пушніна. Карэйскія і кітайскія футры па якасці пашыву саступаюць тавару з Грэцыі. Яшчэ на больш нізкай прыступцы стаіць прадукцыя балканскіх краін, аднак нельга дзеля справядлівасці не адзначыць, што турэцкія футры вызначаюцца разнастайнасцю фасонаў і арыгінальнасцю аздобы (вышыўкі ці аплікацыі). Між іншым, менавіта пад аплікацыяй на дублёнках могуць хавацца дзіркі, і калі яны там ёсць, то такая пакупка будзе радаваць вас нядоўга.

Прыгледзеўшы нарэшце сабе той ці іншы выраб, уважліва азнаёмцеся з футрам (яно павінна злёгку блішчэць), праверце мяздру (пласціны, з якіх складзена шуба) на ўзрост. Пакамячце яе рукой: у «маладога» футра яна мяккая, эластычная, у старога — падобнае на пергамент. Абавязкова футра трэба як мага мацней паторгаць рукой. У высакаякаснага поўсць не вылезе, а застанецца на месцы. Акрамя таго, трэба на футра падзьмуць і, калі ў яго выявіцца густы падшэрстак (а чым поўсць даўжэйшая і таўсцейшая, тым лепш), значыць футра, выбранае вамі, сапраўды высакаякаснае.

Застаецца яшчэ адно — праверыць усе швы. Яны павінны быць не праклеенымі, а пашытымі, і пашытымі добрасумленна, без дзірак.

Гарантыйны тэрмін на вырабы з футра складае 12 месяцаў. Пры гэтым у гарантыйны тэрмін не ўключаецца час перапынку ў карыстанні вырабам, звязаны з наступленнем іншага сезона. Такім чынам, гарантыйны тэрмін на вырабы з футра — 2 каляндарныя гады.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ТРЭБА СТВАРЫЦЬ НАРМАЛЬНЫЯ ЎМОВЫ ДЛЯ РАЗВІЦЦЯ БІЗНЕСУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Названы ўказ прэзідэнта рэспублікі, прадоўжыў старшыня Дзяржаўнага падатковага камітэта, не прадугледжваў жорсткіх мераў па рэгламентацыі парадку рэгістрацыі па той простай прычыне, што насельніцтву былі прадастаўлены магчымасці ў цывілізаванай форме ажыццяўляць свой бізнес. Аднак на практыцы мы бачым зусім іншае... У некаторай ступені ліберальны парадак рэгістрацыі не прамінулі выкарыстаць многія нядобрасумленныя камерцыйныя структуры і прадпрымальнікі. У выніку з суб'ектаў гаспадарання недзяржаўнай формы ўласнасці, якія прайшлі перарэгістрацыю, па стану на 1 верасня гэтага года, 39 тысяч, гэта значыць 17 працэнтаў, зноў сталі непрацуючымі, 9 тысяч — стратныя, а больш чым пяць тысяч — маюць запазычанасць перад бюджэтам.

Зразумела, што ўсё гэта выклікае сур'ёзную заклапочанасць і ў дзяржаўных падатковых органаў, і ва ўрада рэспублікі. Тым больш, што толькі за мінулы год і першае паўгоддзе гэтага года падатковымі службамі была спынена дзейнасць звыш 200 фінансавых кампаній, якія займаліся незаконнымі маніпуляцыямі. Зразумела, што многія суб'екты гаспадарання і грамадзяне, якіх падманулі гэтыя фірмы, пачалі звяртацца ў органы дзяржаўнай улады з просьбамі навесці, нарэшце, парадак.

На думку Мікалая Дземчука, сёння наспела вострая неабходнасць у змяненнях сістэмы рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання ў рэспубліцы. Рашэнне аб прыпыненні гэтага працэсу прынята паралельна з пачатай у адпаведных дзяржаўных структурах работай па стварэнню нарматыўных дакументаў, якія рэгламентавалі б парадак рэгістрацыі.

— Мы лічым, — падкрэсліў у гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА Мікалай Дзямчук, — што запланаваныя меры дадуць магчымасць увесці ў рэспубліцы сапраўды цывілізаваны парадак рэгістрацыі і ліквідацыі фіктыўных суб'ектаў гаспадарання. І менавіта гэта створыць нармальныя ўмовы для развіцця бізнесу прадпрыемствам, прадпрымальнікам і грамадзянам, якія працуюць сумленна.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

### ПРАЦЯГВАЕЦЦА РОСТ АБ'ЁМУ ВУП

Аб'ём валавога ўнутранага прадукту, выраблената ў Беларусі ў студзені—жніўні 1998 года, склаў у бягучых цэнах 342 395 мільярдаў рублёў. У супастаўных цэнах гэта на 11 працэнтаў больш, чым за аналагічны леташні перыяд.

Вытворчасць прамысловай прадукцыі павялічылася за гэты перыяд на 12 працэнтаў, сельскагаспадарчай — на 0,7 працэнта.

**Сяргей СНЕГІН, БелаПАН.**

*ХАРЧОВАЯ БЯСПЕКА*

## СКВАПНЫ ПЛАЦІЦЬ ДВОЙЧЫ, А ЧАСАМ І ТРОЙЧЫ

**Пры спробе незаконнага вывазу тавараў за межы Беларусі ўжо канфіскавана 22 аўтамабілі, яшчэ 233 транспартныя сродкі знаходзяцца «пад арыштам».**

Прыняцце жосткіх мераў па спыненню несанкцыяніравага вывазу з Беларусі прадуктаў харчавання і іншых тавараў першай неабходнасці ўжо прыносіць станоўчыя вынікі.

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» начальнік службы Упраўлення па эканамічнай злачыннасці МУС краіны Уладзімір ЯНКОЎСКІ, за апошнія дні істотна зменшыліся маштабы стыхійнага вывазу прадуктаў харчавання за межы Беларусі. Відавочна, многія стыхійныя «экспарцёры» ў рэшце рэшт зразумелі, што праваахоўныя і кантралюючыя органы вядуць і надалей будуць весці з імі бескампрамісную барацьбу. А таму шанцаў зрабіць «лёгкія» грошы на танных беларускіх прадуктах харчавання ў «чаўнакоў» зараз вельмі мала. Затое ўзрасла верагоднасць страціць не толькі скупляны ў крамах тавар, але і аўтамабіль, на якім гэты тавар вывозіцца за мяжу.

Так, у прыватнасці, з 5 па 18 верасня супрацоўнікамі праваахоўных органаў пры спробе незаконнага вывазу затрымана прадуктаў харчавання на 126 мільярдаў 611 мільёнаў 500 тысяч рублёў. У «чаўнакоў» канфіскаваны 22 адзінкі аўтатранспартных сродкаў, на якіх незаконна вывозіліся за мяжу беларускія тавары. Яшчэ 233 аўтамабілі ў чаканні судовых рашэнняў зараз знаходзяцца «пад арыштам». Таму, верагодна, спіс асоб, якія з-за сваёй празмернай сквапнасці страцяць асабістае аўто, істотна павялічыцца.

Так што, як бачна, многія нашы сквапныя суграмадзяне, спрабуючы незаконна вывезці прадукты харчавання, плацяць двойчы: губляюць і тавар, і аўтамабіль.

Больш таго, некаторым стыхійным «экспарцёрам» і іх памочнікам давядзецца несці і крымінальную адказнасць.

Так, напрыклад, супрацоўнікамі Жодзінскага гарадскога аддзела ўнутраных спраў днямі ўзбуджана крымінальная справа супраць загадчыцы аднаго з мясцовых магазінаў, якая за хабар у памеры 560 тысяч рублёў прадала жыхару Барысава 140 кілаграмаў масла.

А ў Лунінцы інжынер аднаго з мясцовых прадпрыемстваў спрабаваў падкупіць супрацоўніка аддзела па эканамічнай злачыннасці Столінскага РАУС. Інжынер спрабаваў даць міліцыянеру хабар у памеры 200 долараў, каб той спыніў крымінальную справу, узбуджаную па факту незаконнага продажу электраканфорак, якія адна з мінскіх фірмаў імкнулася вывезці ва Украіну.

Наогул, па словах Уладзіміра ЯНКОЎСКАГА, міліцыя наладзіла пільны кантроль за прадпрыемствамі, якія выпускаюць тавары штодзённага попыту. У перыяд з 5 па 18 верасня супрацоўнікамі органаў унутраных спраў праведзена больш за 900 праверак мясакамбінатаў, прадпрыемстваў і цэхаў, што выпускаюць мясную прадукцыю, 550 праверак малочных камбінатаў, звыш 8 тысяч праверак складоў, базаў, магазінаў і іншых прадпрыемстваў гандлю. За апошнія два тыдні супраць стыхійных «экспарцёраў» і іх памагатых узбуджаны 42 крымінальныя справы, а таксама складзены 3.461 пратакол аб адміністрацыйных правапарушэннях, за якія давядзецца плаціць немалыя штрафы.

Магчыма, гэта статыстыка прымусіць задумацца многіх нашых суграмадзян, якія ўсё ж збіраюцца пусціцца ў рызыкоўнае падарожжа ў Расію за «шалёнымі» грашыма.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 18 ВЕРАСНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 65900 | 66000 | 39220 | 39280 | 4750 | 5260 | 222-0750 |
| Пріорбанк | 65500 | 67000 | 38900 | 39700 | 4000 | 5300 | 245-5721 |
| Белпрамбудбанк | 66000 | 67000 | 38000 | 39700 | 4700 | 5300 | 233-2110 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 52200 | | 30845.59 | | 3550 | | Курс на 19.09.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 10, 3818 | | 9,6659 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

**Тэмы цяперашняга становішча на ўсходніх межах Беларусі і спынення незаконнага вывазу тавараў лідзіравалі апошнім часам у выпусках навін і займалі асаблівае месца на старонках газет. Справаздачы кіраўнікоў праваахоўных органаў запэўнівалі насельніцтва, што мяжа кантралюецца поўнасцю, а спажывецкі рынак краіны будзе належным чынам абаронены.**

**Што адбываецца на беларуска-расійскім памежжы на самай справе, як сёння працуе міліцыя, што можна набыць у сельскіх магазінах і як настроены людзі па абодва бакі мяжы — пра ўсё гэта мы даведаліся, як кажуць, «з першых вуснаў» — у паездцы ў памежныя Крычаўскі і Клімавіцкі раёны Магілёўскай вобласці, якую арганізаваў прэс-цэнтр абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў.**

# У ПАМЕЖНЫХ РАЁНАХ НЯМА АЖЫЯТАЖУ — НІ НА БЕЛАРУСКІМ БАКУ, НІ НА РАСІЙСКІМ

## Але сярод жыхароў памежных расійскіх вёсак ходзяць чуткі аб магчымай дапамозе харчаваннем у доўг ад беларускага ўрада

### КРЫЧАЎ

Мяжа ў Крычаўскім раёне не надта вялікая — усяго дзесяцікіламетровы адрэзак. Але раённы цэнтр — трэці па велічыні горад у Магілёўскай вобласці, тут праходзяць чыгуначныя шляхі ў Расію і дзейнічае аддзяленне мытні.

Як і ва ўсіх памежных раёнах Магілёўскай вобласці, тут быў створаны аператыўны штаб для каардынацыі работы розных службаў па прадухіленні незаконнага вывазу тавараў і распрацаваны адпаведны план сумесных дзеянняў мясцовых органаў міліцыі, мытнікаў, а таксама і супрацоўнікаў упраўлення ўнутраных спраў на транспарце.

Як паведаміў начальнік Крычаўскага РАУС **Уладзімір АГЕЕЎ**, было вызначана месца для стацыянарнага кругласутачнага міліцэйскага паста — у райцэнтры на вуліцы Маскоўскай, якая з'яўляецца цэнтральнай трасай. Акрамя гэтага, на тэрыторыі раёна дзейнічаюць у начны час дзве перасовачныя групы, асобныя супрацоўнікі робяць праверкі цягнікоў, аптовых складоў і магазінаў.

— Я лічу, што гэтыя пасты былі выстаўлены не дарма, — упэўнены Уладзімір Агееў. — Калі б засталася дзе пустая, некантралюемая прастора — тавараў бы паменела. А калі людзі нават проста ўбачылі супрацоўнікаў міліцыі на пастах, многія асцерагаліся выязджаць з таварамі, бо не жадалі застацца ў выніку разбору ні з чым.

Праверкі на цягніках вялікіх вынікаў не далі, прызнаюцца і мытнікі, і супрацоўнікі РАУС. Справа ў тым, што гэтым відам грамадскага транспарту карыстаюцца дробныя «чаўнакі», не здольныя правезці нейкія буйныя партыі тавараў, — звычайна адна ці дзве сумкі. Іншая справа — аўтамабіль, які можна нагрузіць «пад завязку» ды яшчэ выкарыстаць і прычэп. Аднак і на аўтатрасах, па сведчанні міліцыянераў, «чаўнакоў» зараз амаль што не сустрэнеш. Былі выпадкі, калі спынялі людзей, што едуць на працу ў Расію (а для памежжа гэтая справа ледзь не звычайная) з кавалкам сала ды мехам бульбы, але гэта ўжо зусім не тыя «аб'ёмы» ў параўнанні з ранейшым патокам «чаўнакоў». У Крычаўскім РАУС лічаць, што прычын такога становішча дзве: эканамічны крызіс і нестабільнасць грашовых знакаў Расіі, а таксама і жорсткія меры, якія прадугледжаны прэзідэнцкім Дэкрэтам «Аб неадкладных мерах па абароне спажывецкага рынку».

Што ж датычыцца камерцыйнай дзейнасці юрыдычных асоб, то ў Крычаўскім раёне апошнімі днямі адбылося некалькі буйных затрыманняў.

Чатыры аўтамабілі з 53 тонамі солі, якія былі адпраўлены камерцыйным прадпрыемствам з Мінска ў адрас малога прадпрыемства ў Маскоўскай вобласці, былі павернуты назад у сувязі з адсутнасцю мытнага штампа аб дазволе на вываз.

У аўторак на гэтым тыдні былі затрыманы тры машыны з бульбай — груз накіроўваўся з Гомельскай вобласці ў Санкт-Пецярбург. Дакументы на бульбу былі, але старога ўзору, якія дзейнічалі да падпісання Дэкрэта № 15. Гаспадары грузу пакуль выпраўляюць паперы, а пакуль затрыманыя машыны стаяць ля будынка Крычаўскага РАУС.

У гэты ж дзень быў затрыманы яшчэ адзін груз — на гэты раз мэбля. 800 крэслаў на суму 560 мільёнаў беларускіх рублёў перавозіла сталічнае акцыянернае таварыства ў горад Маздок. Зараз ідзе праверка, бо ніякіх дакументаў аб дазволе на вываз крэслаў фірма не мае.

— Нават усе сцежкі на мяжы, у прынцыпе, на кантролі, і сілы ў нас ёсць, каб перакрыць кожную з іх, — запэўнівае начальнік Крычаўскага РАУС. — Але не трэба забывацца на тое, што мяжа ў нас з Расіяй «празрыстая», і калі чалавек возьме рукзак за плечы і пойдзе па лесе пешшу на той бок, то яго не спыніш. Аднак з'ява гэтая не з'яўляецца масавай па адной простай прычыне: народ цяпер у нас цывілізаваны, прызвычаіўся карыстацца транспартнымі сродкамі. Тым больш, паўтараю, што кожны цяпер ведае: ёсць адказнасць за вываз тавараў, і яна вельмі суровая. Не думаю, каб хто-небудзь стаў рызыкаваць...

У гутарцы з журналістамі Уладзімір Агееў таксама падкрэсліў, што гэты ўзмоцнены варыянт нясення службы не з'яўляецца для супрацоўнікаў міліцыі Крычаўскага раёна чымсьці надзвычайным. На працягу ўсяго жніўня праводзілася аперацыя «Аграрнік», калі зноў такі перасовачныя групы па начах правяралі захаванасць збожжа і тэхнікі. Так што цяперашні рэжым работы па абароне спажывецкага рынку амаль нічым ад ранейшага не адрозніваецца і нечаканасцю для міліцыі не з'яўляецца.

Дарэчы, нічога надзвычайнага мы не выявілі і ў крычаўскіх магазінах. Прадукты харчавання ёсць (мяса і рыба таксама), а не хапае, як і па ўсёй вобласці, грэчкі, рысу, мукі вышэйшага гатунку, цукру і алею. Але перабоі з крупамі і мукой не адбіліся пакуль, па прыватных сведчаннях мясцовых міліцыянераў, ні на настроі жанчын, ні на харчаванні мужчын. А калі афіцыйна, дык парушэнні ў гандлёвай сетцы Крычаўскага раёна — і аптовай, і рознічнай, не былі выяўлены кампетэнтнымі органамі. Гандаль паводзіў сябе прыстойна.

### КЛІМАВІЧЫ

— У апошнія дні абстаноўка стабілізавалася, і за апошнія суткі (а гаворка адбывалася ў сераду) не было затрымана ніводнага падазронага грузу, — інфармаваў журналістаў начальнік Клімавіцкага РАУС **Міхаіл ЛУК'ЯНАЎ**. — Праезд аўтамабіляў з харчаваннем ці таварамі народнага спажывання спыніўся. Транспарт у Расію ідзе ў асноўным парожняком.

Але папярэднія дні ў міліцыі Клімавіцкага раёна былі напружанымі, за дзесяць дзён было праверана больш як 10 тысяч адзінак аўтатранспарту. Менавіта на гэтым адрэзку мяжы адбыліся значныя затрыманні кантрабандных грузаў — такіх фактаў зафіксавана 14. Вось толькі некаторыя з іх.

12 верасня ўвечары на аб'язной дарозе былі затрыманы тры аўтамашыны, якія перавозілі больш за 70 кубічных метраў піламатэрыялаў на суму амаль 200 мільёнаў рублёў з Магілёва ў адрас камерцыйнай структуры ў Валгаградскай вобласці без адпаведных дакументаў. Міліцыя падрыхтавала і накіравала ў суд матэрыялы гэтай справы ў адпаведнасці з вядомым дэкрэтам.

У гэты ж дзень на КПП «Звянчатка» быў затрыманы расійскі аўтобус «Ікарус» і аўтамабіль «КАМАЗ», на якіх перавозілася мэбля, набытая ў Брэсце, на суму больш за 200 мільёнаў рублёў. Груз накіроўваўся ў Махачкалу, але зноў жа без дакументаў. Пытанне аб канфіскацыі будзе пастаўлена на пасяджэнні спецыяльнай камісіі пры раённым Савеце дэпутатаў.

Напэўна, самае вялікае затрыманне, а праз нейкі час і канфіскацыя, адбылося ў Клімавіцкім раёне 4 верасня. Былі затрыманы дзве фуры са свіннямі: 112 галоў па 130 кілаграмаў у сярэднім кожная. Груз коштам прыблізна 800 мільёнаў рублёў перавозіўся з Гомельскай вобласці ў Расію. Першапачаткова дакументы былі аформлены да Крычаўскага мясакамбіната, а таму па тэрыторыі Беларусі свіней перавезлі беспрашкодна. У Крычаве паперы перарабілі на Смаленскі мясакамбінат, але, хутчэй за ўсё, пасля перапрацоўкі свініна паехала б далей. Але груз затрымалі і здалі ў раённую нарыхтоўчую кантору. З кантрабандных свінак будзе выраблена каўбаса для жыхароў Клімавіцкага раёна.

Дарэчы, харчовы ажыятаж у насельніцтва раёна хутка спаў. Мясцовае начальства праводзіла сустрэчы з людзьмі, дзе тлумачыла, што паліцы ў магазінах будуць поўнымі і не трэба нарыхтоўваць харчаванне ў запас. Па сведчаннях відавочцаў, жыхары беларускіх памежных вёсак і райцэнтра клапаціліся пра нарыхтоўкі нават больш, чым спужаныя асабістым эканамічным крызісам расійскія суседзі. Магчыма таму, што ў нашых грошай і магчымасцяў было больш?.. Але запэўніванні мясцовага начальства, а таксама і выступленне прэзідэнта па тэлебачанні паспрыялі ўсталяванню парадку і спакою — так сцвярджаюць у Клімавіцкім РАУС.



— А мяжа ў нас перакрыта поўнасцю — праехаць немагчыма, — сказаў Міхаіл Лук'янаў. — На цэнтральнай магістралі «Масква—Івацэвічы» каля вёскі Звянчатка ёсць КПП дарожнай міліцыі. Выстаўлены таксама два блок-пасты: на мосце ў вёсцы Стары Дзедзін, дзе цячэ рака Асцер — натуральная перашкода на мяжы, і перасячы яе можна толькі праз той мост, на якім кругласутачна дзяжурыць міліцыя. Другі пост — у вёсцы Макеевічы на мяжы з Ершыцкім раёнам. А вось па іншых дарогах праехаць проста немагчыма...

Акрамя гэтага, створаны і перасовачныя групы. Начальнік Клімавіцкага РАУС не хавае той факт, што адчувае няхватку кадраў пры такім рэжыме работы. І калі людзі працуюць на мяжы, шчыра кажучы, менш увагі ўдзяляецца раскрыццю і прафілактыцы злачынстваў, хоць міліцыя і робіць усё магчымае. Але размова пра зняцце блок-пастоў і спыненне патрулявання не ідзе, бо заслона павінна быць, ды і ўсё яшчэ ёсць верагоднасць, што сёння кантрабандыстаў няма, а заўтра па нейкіх прычынах зноў пачнецца недапушчальны вываз тавараў.

І, як пацвярджэнне такога меркавання начальніка Клімавіцкага РАУС — узмоцненыя пасты знімаць дачасна! — затрыманне на нашых вачах на КПП у Звянчатцы. Загадзя скажам, што ў нашай прысутнасці вёўся разбор, а канчатковы вынік — законна ці незаконна — нам пакуль невядомы. Інспектар мытні Аляксандр Колас (дарэчы, ён камандзіраваны з Мазыра на ўсходнюю мяжу для выканання дэкрэта прэзідэнта) паведаміў, што затрымана 12 тон жытняй мукі і ячных круп, якія былі адпраўлены з аднаго з прадпрыемстваў Клімавіч у Расію без дазволу аблвыканкама. Дарэчы, гэта было першае затрыманне Аляксандра Коласа за дзве адпрацаваныя змены.

Пра абстаноўку на мяжы — ніякага ажыятажу, нічога надзвычайнага і напружанага — сведчыць і інфармацыя Васіля Гапеева, начальніка блок-паста ў Макеевічах. Пад'ехалі мы да яго недзе ў 17 гадзін, дзяжурства пачалося з васьмі раніцы, але ніводнай вялікагрузнай машыны каля міліцыянераў не праязджала, толькі некалькі легкавых з бліжэйшых вёсак — усе пустыя, самы вялікі груз — мех бульбы, які расіянін вёз ад беларускай цешчы.

Трэба абавязкова сказаць, што жыццё памежных раёнаў — асаблівае. Адрозніваецца яно тым, што ва ўсіх жыхароў па абодва бакі мяжы ёсць сябры і сваякі. І калі ў беларускай вёсцы нехта забіў вепрука, то не падзяліцца з расійскімі сваякамі проста немагчыма... І гэта ўсё жыццё! Як запэўнівае Міхаіл Лук'янаў, міліцыя да гэтага ставіцца спакойна і па-чалавечы: маўляў, на мяху бульбы не сабраць багацця, а зносінам людзей няма сэнсу перашкаджаць.

— Мы тлумачылі, — гаворыць начальнік міліцыі Клімавіцкага раёна, — што блок-пасты выстаўлены не для таго, каб звычайны, працоўны люд у чымсьці абмяжоўваць, парушаць сваяцкія зносіны і традыцыі, а для таго, каб спыніць кантрабандны вываз тавараў з Беларусі.

Клімавіцкая міліцыя наладзіла вельмі добрыя кантакты са сваімі калегамі з Ершыцкага і Шумяцкага раёнаў Смаленскай вобласці. З апошніх размоў з расіянамі ў РАУС ведаюць, што ажыятаж «размёў» усе прадукты, цэны павялічыліся, але зараз сітуацыя стабілізуецца і набліжаецца да звычайнай.

Сябры «на тым баку» не абразіліся на выстаўленыя на мяжы пасты, бо, як кажуць, разумеюць, што яны не для таго, каб забараніць расіяніну прыехаць у Беларусь і набыць бохан хлеба: яны прыязджаюць, хлеб і іншае, згодна з існуючымі зараз нормамі водпуску, набываюць. Аднак таксама і расіяне, у прыватнасці, у Смаленскай вобласці, увялі ў аднабаковым парадку падатак для ўсіх беларускіх аўтамашын, што ўязджаюць на іх тэрыторыю. Спачатку гэты падатак складаў 300 новых расійскіх рублёў, а цяпер — усе 700. Таму шмат нашых землякоў ездзяць па аб'язных дарогах да суседзяў зусім не таму, што абцяжараныя кантрабанднымі таварамі, а проста з жадання зэканоміць свае нялішнія грошы.

### НА ТЫМ БАКУ

Перад тым як перасячы беларуска-расійскую мяжу, мы наведалі сельскую краму на беларускім баку. Крама гэта, трэба прызнаць, размешчана ў заможным саўгасе і лічыцца адной з лепшых па асартыменту тавараў, але ж і яна — паказчык.

У краме быў нават і дэфіцытны ўсюды цукар — праўда, давалі яго толькі па кілаграму жыхарам сельсавета, але ж быў! Астатняе — макароны, крупы, гарох і гэтак далей — даюць усім, але па 1 кг. З размоў з пакупнікамі зразумелі, што нормы водпуску іх жыццю і планам не перашкаджаюць: заўсёды можна зайсці ў краму і набыць патрэбнае, нікуды харчаванне не падзенецца. Перабоі таксама «звычайныя», агульнарэгіянальныя — рысу не было месяц, грэчка скончылася два тыдні таму, мука — толькі днямі, чакаюць падвозу. Але ўсё ж, настойвалі прадаўцы, «хапуна» не было і зараз няма.

Пераезд на іншы бок — дарэчы, дзесяць хвілін, але па вельмі дрэннай дарозе, што спецыяльна зроблена, каб па ёй меней ездзілі кантрабандысты, бо тут без трактара часта ніяк не абысціся — сапраўды ў іншы свет. Не ведаем, як жывуць расійскія гарады, але вёска — ратуй, Божа! Закінутыя палі, на якіх праз пару гадоў можна будзе збіраць грыбы. Машынны двор уяўляе сабой могільнік тэхнікі. Скрыўленыя хаты, агульная «карцінка» нагадвае пасляваенныя часы ў кінастужках сацыялістычнага рэалізму: навокал — бязлюддзе, толькі бабулі на лаўках сядзяць і заўсёды гатовыя распавесці прахожаму чалавеку пра свае беды:

— Жывём — далей няма куды! Пенсіі не плацяць тры месяцы, і хлеба ні грама не можам набыць. Пенсія нядрэнная — 370 рублёў, але калі дадуць — ніхто не ведае!

— Чым харчуемся? Паранай бульбай ды грыбамі. Нават без солі — няма грошай і на гэта! Мяса, праўда, ёсць, хто ўтрымлівае жывёлу, але ні макароны, ні мукі ўсё роўна ў людзей няма...

На жаль, мы прыехалі ў вёску Высокае Ершыцкага раёна для наведвання сельскай крамы позна. Зачыняецца яна цяпер рана — усё роўна туды амаль ніхто з мясцовых жыхароў не ходзіць. Ды і калі мы пачалі распытваць кожную сустрэчную жанчыну пра асартымент, звесткі былі самыя супярэчлівыя — ёсць усё ці няма нічога, бо даўно яны там не былі, а ўражанні, вядома ж, залежалі ад апошняга візіту:

— Чаго мне туды хадзіць, усё роўна грошай няма! Зарплата 150 рублёў, дык цукар па новай цане, гавораць, каштуе 15 рублёў за кілаграм, а алей — 30 за літр! Дык усё роўна я гады два не бачыла свайго заробку цалкам грашыма — добра яшчэ, што старшыня калгаса калі-нікалі дамовіцца, каб харчоў якіх далі...

— Усё роўна зараз у магазіне засталіся толькі слоікі — соусы, сок, воцат ды дзве скрынкі піва. Праўда, два мяхі мукі прывезлі, толькі па новай цане — не дакупіцца! Вымелі за мінулыя дні ўсе тавары — але набылі іх не мы, а тая Расія, у якой грошы ёсць. А нам — хоць з голаду памірай...

— Да нас тут жанчына прыязджала з Беларусі, хлеб давала — запісвала ў доўг. Дык гавораць, што вашы будуць даваць нам нейкі паёк у разліку атрымаць потым з нашых нявыплачаных пенсій, ці так?..

На гэтыя пытанні адказаць бабулям, што сядзяць без хлеба і солі, мы, на жаль, не маглі. Але ўпэўніліся, што сапраўды на расійскім баку памежжа — ва ўсякім разе, у сельскай мясцовасці — падстаў для ажыятажу папросту на тавары няма, таму што мала ў каго тут можна знайсці грашовыя знакі.

Мы — не эксперты, і нам цяжка па-справядлівасці вызначыць, на якім баку памежжа на самай справе жывецца горш ці лепей, але міліцыянеры з блок-пастоў шчыра сказалі, што ім расійскіх вяскоўцаў вельмі шкада... Хоць гэта і не нагода для таго, каб пакінуць суайчыннікаў без сваіх тавараў.

**Ілона ІВАНОВА.**
**Фота Алега ФАЙНІЦКАГА.**
*Крычаў—Клімавічы—Ершыцкі раён Смаленскай вобласці.*



**Расійскія вясковыя бабулі кажуць, што грошай няма нават на соль і хлеб...**

# Фермерскі клопат


Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## ПРАВІНЦЫЯЛЬНАМУ РЫНКУ ДЭФІЦЫТ — НЕ ПЕРАШКОДА

**Каб зразумець, як адрэагавала правінцыя на раптам узнікшы ў краіне ажыятажны попыт на харчовыя і прамысловыя тавары, не трэба ад'язджаць далёка ад сталіцы. Гарадскі пасёлак Смілавічы знаходзіцца ўсяго за 35 кіламетраў ад Мінска, прычым размяшчаецца ўздоўж Магілёўскай шашы, але нават такое выгаднае геаграфічнае становішча не выратавала гэты населены пункт ад харчовага дэфіцыту.**

Першае, што кідаецца старонняму чалавеку ў вочы, дык гэта адсутнасць у мясцовых магазінах алею, рысу, грэцкіх круп, айчыннага маргарыну, маянэзу, вермішэлі, каўбасных вырабаў, цукру, мукі. Магазінныя ж паліцы занятыя, у пераважнай сваёй большасці, аўсянкай, ячкай і просам. «Смешна» на агульным фоне гэтай пустэчы выглядаюць бутэлькі з шампанскім «Москва златоглавая» па цане 175 тысяч рублёў за бутэльку і салёны селядзец па цане 115 тысяч «зайцоў» за кілаграм.

Сітуацыю ў пасёлку выратоўваюць толькі камерсанты, якія рэалізуюць на мясцовым мінірынку ўсе вышэйпералічаныя прадукты, але ўжо, зразумела, па сваіх цэнах. Так, напрыклад, кілаграм рысу ці грэцкіх круп каштуе ў іх 60 тыс. рублёў, вермішэлі — 45 тыс. рублёў, алею — 115—120 тыс. рублёў, курыных кумпячкоў — 145 тыс. рублёў, венгерскай мукі — 35 тысяч, беларускай — 26 тыс. рублёў. Цікава, што беларускі цукар «цягне» на рынку на 44 тысячы рублёў, а вось польскі «толькі» на 40 тысяч. Дарэчы, салёны селядзец у камерсантаў значна таннейшы, чым у магазінах, яны прапануюць яго не за 115, а за 80 тысяч «зайцоў».

Затое асартыменту, які прапануе смілавіцкая кулінарыя, могуць пазайздросціць нават мінчане. За 99,5 тыс. рублёў тут можна набыць ялавічны фарш, за 112 тыс. рублёў — свіны, за 110 тыс. рублёў — «Хатні». Свініна без косткі каштуе тут 170 тыс. рублёў, ялавічына без косткі — 160 тысяч, гуляш з ялавічыны — 163 тысячы.

Нельга не адзначыць, вандруючы па Смілавічах, таксама знікненне ў мясцовым магазіне «Гаспадарчыя тавары» з продажу айчынных тэлевізараў «Гарызонт» і мінскіх халадзільнікаў. Нават у мясцовым камісійным магазіне куток, які заўсёды займала мэбля, выраблямая рознымі СП і кааператывамі, сёння пусты як ніколі.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## «МАЗ-МАН» запускае завод

Напрыканцы кастрычніка гэтага года адбудзецца пуск завода па вытворчасці грузавікоў «МАЗ-МАН», паведамілі ў цэнтры грамадскіх сувязяў Мінскага аўтамабільнага завода.

Нагадаем, што ў снежні мінулага года ў Мінску было створана сумеснае беларуска-нямецкае прадпрыемства «МАЗ-МАН». Спачатку СП арганізавала зборку грузавікоў, што адпавядаюць еўрастандартам, на плошчах сталічнага аўтазавода. А ў хуткім часе аўтамабілі «МАЗ-МАН» будуць сыходзіць з канвеера нашага завода.

Як паведамілі ў цэнтры грамадскіх сувязяў МАЗа, на сённяшні дзень СП выраблена 20 грузавікоў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**



*ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ*

# І ЗНОЎ — ПРА ЖЫЛЛЁ

***Адвакат Таццяна Матусевіч працягвае прававую тэму пра жыллё***

**Ірына Глушко пражывала з мужам і пяцігадовай дачкой у інтэрнаце. Год таму шлюб скасавалі. Муж працуе ў ЖЭСе. А летам гэтага года муж звольніўся з прадпрыемства, якое прадаставіла інтэрнат. Камендант інтэрната аб'явіла, што пакой трэба пакінуць, і прыгразіла звярнуцца ў суд. «Ці з'яўляецца законным такое патрабаванне?» — пытаецца Ірына.**

Па закону інтэрнат прадастаўляецца тым, хто працуе на прадпрыемстве, якое мае інтэрнат, альбо тым, хто вучыцца. Са студэнтамі абыходзяцца проста. Спыніў вучобу — высяляюць з інтэрната. Да работнікаў прымяняюць іншыя правілы.

Калі работнік пакінуў работу, яго таксама могуць выселіць з інтэрната. Але існуюць два варыянты: альбо яго высяляюць без прадастаўлення іншага жылога памяшкання, альбо з прадастаўленнем. Які варыянт будзе выбраны, залежыць перш за ўсё ад прычыны звальнення. Калі, напрыклад, работніка звольнілі за парушэнне працоўнай дысцыпліны альбо ўчыненне злачынства, ці работнік звольніўся па ўласнаму жаданню без уважлівых прычын, яго сапраўды могуць выселіць без прадастаўлення іншага жылля. Але ў гэтым правіле ёсць выключэнне. Арт. 123 Жыллёвага кодэкса прадугледжвае, што некаторых грамадзян не могуць выселіць такім чынам. Адміністрацыя павінна знайсці ім новае жыллё. Да такіх грамадзян адносяцца ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, якія знаходзіліся ў саставе дзеючай арміі, сем'і ваеннаслужачых, пенсіянеры па старасці, персанальныя пенсіянеры і г. д. Да гэтай катэгорыі адносяць таксама адзінокіх асоб з непаўналетнімі дзецьмі, якія пражываюць разам з імі. Таму, калі адміністрацыя ЖЭСа прыме рашэнне аб высяленні Ірыны з дачкой, яна перш за ўсё павінна будзе паклапаціцца аб памяшканні, куды перасяліць гэту сям'ю.

Другі варыянт высялення, г. зн. з прадастаўленнем іншага жылога памяшкання, датычыць тых работнікаў, якія звольніліся на іншай падставе.

**Ніна Паўлоўская ў 1994 годзе звольнілася з прадпрыемства па ўласнаму жаданню ў сувязі з неабходнасцю догляду дачкі да дасягнення ёю 8 гадоў. Цяпер уладкавалася на работу. Але давялося пайсці на іншае прадпрыемства, таму што на ранейшым месца для яе няма. На новым месцы работы яе прынялі на ўлік як маючую патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў з моманту падачы заявы, г. зн. з 1998 г. А на ранейшым месцы работы яна стаяла на ўліку з 1987 г. Чытачку цікавіць: ці можна было яе прыняць на ўлік з 1987 года?**

Правілы ўліку грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і прадастаўлення жылых памяшканняў у РБ, зацверджаныя пастановай Савета Міністраў і Белсаўпрофа ад 25.04.1984 г. № 135 (з далейшымі змяненнямі і дапаўненнямі) прадугледжваюць выпадкі, калі грамадзяніна, які спыніў працоўныя адносіны з прадпрыемствам, могуць прыняць на ўлік на новым месцы работы альбо месцы жыхарства з таго часу, з якога ён стаяў на ўліку на ранейшым месцы работы. Так адбываецца ў выпадках пераводу на работу на іншае прадпрыемства, установу ці ў арганізацыю па рашэнню вышэйстаячага органа (у адносінах да гэтых прадпрыемстваў (арганізацый); калі звальненне звязана з ліквідацыяй прадпрыемства, скарачэннем колькасці альбо штату работнікаў, а таксама калі гэта прадпрыемства рэарганізавана. Аналагічна робяць і тады, калі звальненне звязана са станам здароўя, які перашкаджае працягу работы або звязана з няяўкай на работу ў выніку часовай непрацаздольнасці на працягу 4 месяцаў (арт. 33 п.5) КЗаП), а таксама калі на месца рабочага альбо служачага, якога прыходзіцца звальняць, аднавілі работніка, што раней выконваў гэтую работу.

Ва ўсіх іншых выпадках звальнення стаць на ўлік як маючаму патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў з таго часу, з якога работнік стаяў на ранейшым месцы работы, можна толькі са згоды агульнага сходу (канферэнцыі) працоўнага калектыву прадпрыемства, установы, арганізацыі ці са згоды Савета працоўнага калектыву.

Значыць, чытачцы трэба звярнуцца з заявай аб захаванні чаргі з 1987 г. да Савета працоўнага калектыву па новым месцы работы.

**Матэрыял падрыхтавала Наталля ДОЎНАР.**

*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ...У СТАЛІЦЫ ЗМЕНШЫЛАСЯ КОЛЬКАСЦЬ ТРАНСПАРТУ

**Пачатак восені сталіца сустрэла натоўпамі ў гадзіны «пік» на прыпынках гарадскога грамадскага транспарту. Тут жа сярод пасажыраў папаўзлі чуткі, што мэрыя скараціла колькасць рухомага саставу на гарадскіх маршрутах, а найбольш дасведчаныя з іх сцвярджаюць, што скарацілася толькі колькасць электратранспарту, і гэта скарачэнне адбылося, хутчэй за ўсё, у мэтах эканоміі электраэнергіі.**

У вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкама, куды «Звязда» звярнулася за высвятленнем сітуацыі, апошнюю інфармацыю не абверглі. Сапраўды, згодна з рашэннем гарадскіх уладаў, транспартнікам прыйшлося пайсці на скарачэнне выхаду на маршруты адзінак электратранспарту. Праўда, гэты ўдар яны спрабуюць неяк змякчыць, перабудаваўшы работу тралейбусных маршрутаў. У прыватнасці, перагледжана мэтазгоднасць тых тралейбусных маршрутаў, якія дубліравалі адзін аднаго, а таксама тралейбусных маршрутаў уздоўж лініі мінскага метрапалітэна. Некаторыя тралейбусныя маршруты пасля таго, як развозяць людзей па месцах працы, дзейнічаюць па скарочанаму варыянту, акрамя таго, колькасць транспартных адзінак у няпікавы час змяншаецца.

А вось аўтобусны парк, на шчасце мінчан, рэжым эканоміі пакуль не закрануў. Тыя з аўтобусных адзінак, якія яшчэ здольны «бегаць» (а аўтобусны аўтапарк у сталіцы вельмі зношаны), выходзяць на маршруты. Эканомія праявілася толькі ў тым, што замест умяшчальных «Ікарусаў» на гарадскіх маршрутах усё часцей пачалі з'яўляцца маленькія «ЛАЗы». Але, як сцвярджаюць у галоўным гарадскім транспартным ведамстве, у гадзіны «пік» па гораду курсіруюць аўтобусы, здольныя ўмясціць у сабе куды больш пасажыраў.

Добра разумеючы складанае становішча з забеспячэннем транспартам раёнаў, якія прылягаюць да буйных прамысловых прадпрыемстваў, аддзел арганізацыі пасажырскіх перавозак пайшоў сёння нават на прамыя перамовы з кіраўніцтвам заводаў, каб сумеснымі намаганнямі неяк змякчыць гэту праблему і забяспечыць неабходную колькасць транспартных адзінак на той час, калі рабочыя едуць на работу ці вяртаюцца з рабочай змены.

І яшчэ адзін момант, на які трэба звярнуць увагу мінчан: у верасні сталічны транспарт працягвае працаваць у вясенне-летнім рэжыме, бо пакуль не завяршылася пара водпускаў, не ўсе студэнты прыступілі да заняткаў і г. д. Зараз пасажырскія патокі, з улікам новых акалічнасцяў, аналізуюцца, і магчыма, што ўжо ў кастрычніку-лістападзе ў работу гарадскога транспарту будуць унесены новыя карэктывы. Пакуль жа ясна толькі адно: натоўп пасажыраў у метрапалітэне ў бліжэйшы час не зменшыцца...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ЧЫГУНКА НЯСЕ КАЛАСАЛЬНЫЯ СТРАТЫ, АЛЕ «ТРЫМАЕ» ТАРЫФЫ

**Па меркаванню эканамістаў, страты Беларускай чыгункі за верасень у сувязі з нестабільным фінансавым становішчам у Расіі складуць каля 70 мільярдаў рублёў.**

Як патлумачылі карэспандэнту «Звязды» ў прэс-цэнтры Беларускай чыгункі, каля 70 працэнтаў усіх міждзяржаўных транзітных перавозак адбываецца праз Расію і толькі 30 працэнтаў — праз іншыя краіны. Вядома, што ў суседзяў тарыфы за карыстанне чыгункай ўжо павялічваліся, у нас жа яны па-ранейшаму застаюцца нязменнымі. Разам з тым стратнымі для чыгункі з'яўляюцца і ўнутрырэспубліканскія — прыгарадныя пасажырскія і грузавыя — перавозкі. За восем месяцаў агульныя страты ўжо склалі 2,7 трыльёна рублёў, а да канца года яны, па прагнозах, павялічацца да 4 трыльёнаў рублёў. Між тым, з запрошаных чыгункай за тыя ж восем месяцаў на пакрыццё страт 95 мільярдаў рублёў Мінфін выдзеліў з бюджэту толькі 9 мільярдаў рублёў. Апошнім часам цэны на ўсё павялічваюцца, а тарыфы застаюцца ранейшымі. Між тым, чыгунка абслугоўвае адных толькі льготнікаў 51 катэгорыі, да таго ж некаторыя айчынныя прадпрыемствы просяць зрабіць скідкі на ўнутрырэспубліканскія перавозкі да 30 працэнтаў. На чыгунцы гэтым абураны, бо самі, напрыклад, плануюць атрымліваць да 60 працэнтаў даходаў ад дапаможнай дзейнасці.

Спецыялісты лічаць, што тарыфы павінны пераглядацца. Калі і наколькі? Напрыклад, кошт праезду адной зоны электрычкай чыгуначнікі хацелі б бачыць хаця б у памеры аплаты за карыстанне метро і гарадскім наземным транспартам. Але пакуль «зверху» ніякага руху ў гэтым напрамку не прадбачыцца.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ТУРЫЗМ ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ СТАНОВІЦЦА НЕ ПА КІШЭНІ

**Зразумела, гаворка ідзе пра людзей з сярэднім дастаткам, бо для багацеяў адпачынак недзе на Мальце нават зараз не згубіў сваю прыцягальнасць, што пацвердзілі карэспандэнту «Звязды» ў турыстычных агенцтвах.**

Для большасці беларусаў да нядаўняга часу аптымальнымі ў плане грошай і атрыманых за іх уражанняў былі Італія, Іспанія, Францыя, Турцыя, Балгарыя, Чэхія, Кіпр. На шчасце для многіх турыстычных агенцтваў, крызіс у Расіі і Беларусі прыпаў якраз на заканчэнне сезона, таму нейкага істотнага ўрону яны не панеслі. Іншая справа зараз, калі разам з традыцыйным скарачэннем колькасці турыстаў назіраецца і іх адток па прычыне агульнай сітуацыі ў Расіі і ў нас. Карэспандэнт «Звязды» патэлефанаваў у тузін агенцтваў, з якіх у палове адназначна пацвердзілі такую тэндэнцыю. Праўда, запланаваныя на восень і зіму туры агенцтвы пакуль не адмянялі, але магчымасці такой не выключаюць. Маўляў, усё будзе залежаць ад далейшых падзей. Таму з турыстаў, хто цвёрда вырашыў адпачыць за мяжой менавіта цяпер і мае грошы, арганізуюць індывідуальныя туры, калі вялікай групы не ўдалося сабраць, паведамілі ў некалькіх агенцтвах. Ці зменіцца кошт паездак у доларах у бліжэйшы час — невядома. «Усё залежыць ад нашых замежных партнёраў».

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## У НОВАЕ СТАГОДДЗЕ — З СУПЕРСУЧАСНЫМІ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯМІ

**Упершыню ў Рэспубліцы Беларусь прынята ў эксплуатацыю абсталяванне, якім будуць аснашчацца электрастанцыі ў наступным стагоддзі.**

Спецыялістамі вытворчага аб'яднання «Віцебскэнерга» сумесна з французскай фірмай ALSTOM паспяхова завершаны выпрабаванні пастаўленага і змантіраванага абсталявання парагазавага цыкла на Аршанскай ЦЭЦ. Апошняя была ўведзена ў эксплуатацыю на пачатку 60-х гадоў для забеспячэння цяплом і электраэнергіяй ільнокамбіната і горада, але за прайшоўшы час фізічна і маральна знасілася, патрабавала мадэрнізацыі. У адпаведнасці з пагадненнем паміж Рэспублікай Беларусь і Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР) для мадэрнізацыі ЦЭЦ было вырашана выкарыстоўваць асноўнае энергаабсталяванне вытворчасці краін далёкага замежжа. Для вызначэння фірмы-пастаўшчыка былі праведзены міжнародныя тэндэрныя таргі, у якіх прынялі ўдзел фірмы са Швецыі, Аўстрыі, Італіі, Францыі, Фінляндыі. У выніку другога тура тэндэра пераможцай таргоў была прызнана французская фірма ALSTOM. Трэба адзначыць, што пры праектаванні станцыі будаўніча-мантажныя работы выконваліся калектывамі нашай краіны, якія выйгралі міжнародны тэндэр на выкананне гэтых работ. Генпадраднай арганізацыяй выступіла ААТ «Белэнергабуд», а мантажныя і спецыялізаваныя работы выканалі ААТ «Цэнтрэнергамантаж», ПКС «Электрацэнтрмантаж», РБМП «Бэлэнергаахова», праект быў распрацаваны ДП «БелНДВІэнергапрам».

Як паведамілі ў Беларускім дзяржаўным энергетычным канцэрне «Белэнерга», магутнасць Аршанскай ЦЭЦ павялічылася з 6 МВт да 73,0 МВт, гадавы выпуск электрычнай энергіі павялічыўся ў 34 разы. Трэба заўважыць, што ўдзельныя капіталаўкладанні ў Аршанскую ЦЭЦ значна ніжэйшыя за сусветны ўзровень. Увод у эксплуатацыю парагазавай ўстаноўкі азначае практычнае ажыццяўленне прынцыпова новага высокаэфектыўнага спосабу выпрацоўкі электрычнай і цеплавой энергіі і з'яўляецца ўзорам рэканструкцыі дзеючых і будаўніцтва новых электрастанцый у Рэспубліцы Беларусь у будучым.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

## ТРАПЛЯЮЦЦА І МАХЛЯРЫ

Хоць сёння банкі стараюцца падбіраць на працу сумленных і праверaных людзей, тым не менш, сярод іх трапляюцца і адпетыя махляры.

Следчым падраздзяленнем сталічнай міліцыі ўзбуджана крымінальная справа ў адносінах да начальніка аддзела філіяла аднаго з беларускіх банкаў. Гэты банкаўскі работнік падазраецца ў выкраданні з рахунка па пазыках банка больш чым 5 мільярдаў рублёў. Зрабіла яна гэта, па даных папярэдняга следства, падрабіўшы плацежныя даручэнні шляхам злоўжывання службовым становішчам.

**Васіль НІКАЛАЕЎ.**



Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.

*ПАРАДЫ СПРАКТЫКАВАНЫХ*

## КУПЛЯЕМ КАВУНЫ

**У багацці асенняй агародніны і садавіны нарэшце пачалася пара кавуноў. Так-так, не здзіўляйцеся: дарункі паўднёвых бахчаў, якімі ледзь не з чэрвеня гандлююць на рынках, па форме, безумоўна, кавуны, аднак унутры ў іх, напэўна, адна хімія.**

Любы астраханскі кавун, што куплены да 15 жніўня, напэўна нашпігаваны «хіміяй», бо інакш ён не змог бы выспець. Ёсць і мноства іншых «але»... Увогуле перад адкрыццём сезона «палявання» за сапраўднымі кавунамі самы час усвядоміць некаторыя правілы.

Правіла першае (і апошняе). Калі нават самы заўзяты ахвотнік да кавуноў заявіць, што ён ведае сакрэты, як іх выбіраць, — не верце! Прамых прымет добрага кавуна няма.

Аднак існуюць прыметы ўскосныя. Праўда, нават у выведзенай вопытным шляхам схеме магчымыя «праколы» — да гэтага трэба быць гатовым.

Такім чынам, сапраўдны ахвотнік-мужчына справай гонару павінен лічыць выбар самага вялікага (і, натуральна, самага цяжкага) кавуна. Напэўна будзе больш спелым, чым яго маленькі сабрат. Хаця, калі і ён недаспеў, лепш яго зусім не есці — гэта відавочныя вынікі падкормкі «хіміяй».

Жанчынам прыйдзецца трымаць у галаве намнога больш «салодкіх» прымет — ім лепш выбіраць невялікія, няцяжкія кавуны.

Аб спеласці кавуна сведчыць сухі хвосцік, прычым плямка вакол яго абавязкова павінна быць увагнутай. Калі наадварот — кавун яшчэ няспелы. Добра, калі ў кавуна светлыя «залысінкі». Праўда, іх трэба абавязкова памацаць, каб не купіць — з мяккім бачком — ляжалы тавар.

Звычайна бяспройгрышны бывае выбар «светласкурых» кавуноў або сартоў з цёмнымі палоскамі па светлым полі.

Любіце пастукаць па кавуну, слухаючы звонкі гук? На здароўе! Праўда, якасць гуку на якасці кавуна ніяк не адбіваецца.

**Кавуны не набывайце, калі:**

***тавар прадаюць выпадковыя людзі, а не прадаўцы;***

***прадукт некандыцыйны з выгляду — з мяккімі бакамі, умяцінамі;***

***ёсць надрэзы — значыць унутры кавуна ўжо кішма кішаць хваробатворныя мікробы, яны таксама ахвочыя да салодкага і размнажаюцца імгненна.***

*СУБОТНІЯ ГУТАРКІ ВЕРАНІКІ КУДРАЎЦАВАЙ*

# ГІБЕЛІ «ЦІТАНІК» МОГ ПАЗБЕГНУЦЬ

**Кажуць, што ў самыя няпростыя часы на піку папулярнасці аказваюцца прадказальнікі. Маўляў, зрываюць дывідэнды, карыстаючыся момантам. З такога не вельмі прыемнага пытання і пачалася гаворка з астролагам Веранікай КУДРАЎЦАВАЙ.**

— Такое меркаванне натуральнае, як натуральна і тое, што з'яўляюцца прадказальнікі, «выскачкі» ў смутны час. Шмат ёсць прыкладаў, калі чалавек раптам пачынае верыць у цуды, перажыўшы нейкую пагранічную сітуацыю. Падчас крызісных з'яў, якія адбываюцца ў дзяржаве, калі людзі не ведаюць як і што ім рабіць, у што верыць, яны самі пачынаюць цябе шукаць. І абставіны патрабуюць ад цябе адказаў, каб зарыентаваць людзей. Я лічу, што ніякай спекуляцыі не адбываецца. Сённяшнія прагнозы адносна падзей у Расіі з'явіліся не па жаданню таго ці іншага астролага. Гэта — патрабаванне часу. Я шчыра жадаю ўсім людзям быць свайго роду выскачкамі, умець упісацца ў тую ці іншую жыццёвую сітуацыю. Хіба гэта дрэнна?

*— Аднак іншы раз даводзіцца чуць: яму заплацілі, каб ён даў менавіта такі прагноз.*

— Астралогія — вельмі моцная і адначасова тонкая зброя. Астролагі таксама людзі і, як любы чалавек, маюць права выбару. Яны могуць пайсці на здзелку са сваім сумленнем ці не, быць выказнікам нечых інтарэсаў ці не. Але гэта не мінус усёй сістэме астралагічных ведаў, бо яна — аб'ектыўная. Як выкарыстоўваюцца веды тымі ці іншымі людзьмі — справа іх сумлення. І пракантраляваць нечые ўчынкі немагчыма. Самы лепшы крытэрый ацэнкі дзейнасці чалавека зафіксаваны ў Бібліі — судзіць людзей па іх справах.

*— Астролаг – няпростая прафесія?*

— Астролаг, асабліва ў апошні час, вельмі незвычайная, нават мазахісцкая прафесія. Бо, даючы сёння прагноз, думаеш, каб ён спраўдзіўся, а калі ўсё збываецца, шкадуеш: лепш бы гэтага не было. У наш час прадказваць не толькі не вельмі прыемна, але і адказна.

Я асабіста ніколі не думала раней, што стану займацца гэтай «ілжэнавукай». Яе зусім не ўспрымалі, нічога пра яе не ведалі, ды і сёння адносіны да астралогіі змяніліся неістотна, яе хутчэй разглядаюць як хобі, чым як сур'ёзную справу. Думаю, што пакуль не будзе прадстаўлена навуковых пацвярджэнняў, рэзультатаў, пакуль не з'явяцца дзяржаўныя адносіны да астралогіі, цікавасць будзе абмяжоўвацца індывідуальным узроўнем. А астралогія — не што іншае, як чалавекаведанне і інструмент пазнання свету. І ні адзін астролаг не можа быць неадукаваным. Каб рабіць высновы, тым самым беручы на сябе адказнасць, трэба валодаць вялікім пластом навуковых ведаў: гістарычных, міфалагічных, псіхалагічных, нават анатамічных. Да ведаў дадаецца тонкая інтуіцыя. Астралогію паважалі філосафы, бо гэта пэўны светапогляд. Эйнштэйн аддаваў ёй належнае, Чыжэўскі прысвяціў оду астралогіі, Авіцэна, Парацэльс таксама цікавіліся астралогіяй. Настрадамус быў медыкам, і яго заслуга ў тым, што ён выратаваў ад чумы свой народ.

*— Астралогія можа быць выкарыстана як інструмент у любой сферы жыцця?*

— Так, пачынаючы з індывідуальнай і заканчваючы сацыяльна-палітычнай. Напрыклад, раней урачы валодалі асновамі астралогіі. У гараскопе ж кожнага з нас можна ўбачыць схільнасць да таго ці іншага захворвання, прычыны хваробы, форму яе працякання, перыяды абвастрэння. Спалучэнне такіх ведаў давала б нашмат лепшыя вынікі, дазваляла б папярэдзіць ці правесці своечасова прафілактыку хваробы.

Некаторыя астролагі, што займаюцца эканамічнымі пытаннямі, і я ведаю такіх, могуць прагназіраваць нават курс долара. Астролагі здольныя прадказаць падзенне самалётаў, крушэнне цягнікоў, катастрофы на суднах. Калі б перад выхадам у рэйс «Цітаніка» звярнуліся да астролагаў, бяды можна было б пазбегнуць.

*— Атрымліваецца, што гараскоп не фатальны?*

— Іменна так. Ён дае веданне, калі чалавека падпільноўвае цёмная паласа і калі на яго «зваліцца» падарунак. Веданне гэтага дазваляе абысці рыфы і, наадварот, не прайсці міма момантаў шчасця. Тое ж самае і ў іншых сферах жыцця. Толькі над сацыяльна-палітычнымі і эканамічнымі прагнозамі трэба было б працаваць цэлымі групамі, можа быць, інстытутам. Гэта ж вельмі адказная і складаная праца, і яна патрабуе ўліку ўсіх самых дробных нюансаў. Прызначэнне астралогіі не ў тым, каб задавальняць нашу цікаўнасць, а каб, улічваючы фактары далейшай магчымай будучыні, выбраць як мага больш граматны варыянт развіцця падзей. Будучыня — шматварыянтная, хоць і ёсць некаторыя глабальныя вехі на шляху і чалавека, і грамадства, якія немагчыма абысці. Напрыклад, у Расіі пакуль прагноз спраўджваецца. Адбылося перакрыжаванне ліній часоў Барыса Гадунова і марксісцкіх ідэй. Сённяшняе становішча ў Расіі — смутны час. Далейшы ход падзей у кастрычніку можа прывесці да разраду энергіі, выбуху, нават прымянення сілы. Калі людзі ва ўладзе не здолеюць ці не пажадаюць унесці карэктывы ў прадпісаны сцэнарый, толькі напрыканцы наступнага месяца адчуецца нейкая палёгка. Але на гэтым праблемы суседзяў не скончацца. Ім давядзецца пакутваць яшчэ каля паўгода.

*— Але ж астролагі таксама памыляюцца.*

— Вядома, што такое здараецца. Па-першае, усё залежыць ад прафесіяналізму спецыяліста. Па-другое, верагоднасць памылкі можа ўзрасці з-за выбару асоб, задзейнічаных у сітуацыі. Калі казаць, напрыклад, пра сацыяльнае прагназіраванне, то ўсё залежыць ад расстаноўкі сіл, ад выбару кожнай партыі, дзеючых асоб. На Захадзе лічаць, што высокі паказчык, калі прагнозы збываюцца на 60—75 працэнтаў. Але ёсць і адваротны бок медаля. Калі прагноз улічваецца людзьмі і ўсё робіцца, каб пазбегнуць нейкіх непрыемных момантаў, то ён як бы самаліквідуецца. Так што нехта можа абвінаваціць астролага ў няпраўдзівасці прадказанняў.

*— І напрыканцы: што б Вы пажадалі чытачам?*

— Ведаць свой гараскоп. Чалавек, як правіла, атрымлівае ад жыцця тыя сітуацыі, якія ён прыцягвае ўласнымі рытмамі, закладзенымі ў ім. Кожная сітуацыя — заслужаная, яна даецца для павелічэння вопыту ці для пазбаўлення ад грахоў. Узнагародай жа становяцца сітуацыі падарунка. Усё гэта чалавек можа атрымаць цалкам, а можа ўнесці пэўныя карэктывы. Бо няма абсалютна фатальных людзей. Як правіла, у большасці з нас фатальнасці і свабоды пароўну. Так што чалавек у стане змяніць многае, калі ён таго хоча.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*СМЕХАТЭРАПІЯ*

## ДЫЯЛОГ У ДАНТЫСТА

— Дзень добры, доктар. Здаецца, я трапіў па адрасу — гэта зубалячэбная клініка «Галівудская ўсмешка»?

— Але на двукоссе, спадзяюся, вы звярнулі ўвагу... Што турбуе?

— Карэнны хістаецца. Увесь дзень сяджу, пальцам прытрымліваю — ажно рука здранцвела.

— Будзем ампутаваць.

— Ру-у-уку?

— Не. Пакуль зуб.

— Доктар, мне будзе балець?

— Ні ў якім разе! Калі вы даведаецеся аб кошце на замарозку, то «адключыцеся». Дарэчы, што вы ўвесь час жуяце і жуяце? Перастаньце.

— Прабачце, гэта жвачка. Не ведаю нават, куды б яе тут пакласці. Шкада выкідваць: я да яе так прывык за апошнія два тыдні.

— Дайце пакуль я пажую. Самі ж пакажыце рот. У-у-у! Як тут усё запушчана. Як тут усё запушчана...

— Навошта вы два разы паўтарылі?

— Гэта не я, гэта рэха — у зубе дупло. Трэба вырываць. Удыхніце... Ну, не так моцна! Цяпер выдыхніце назад мае шчыпцы.

— Вой!!!

— Зроблена. Выплёўвайце... Але ж, я бачу, вы заможна жывяце: вунь колькі мяса паміж зубоў! Зараз я вам яго дастану.

— Дзякуй, доктар. Вы таксама частуйцеся. Між іншым, колькі каштуе каронка?

— Срэбная — 30, залатая — 60, з ахоўнай сігналізацыяй — 500 даляраў... А Божухна! І гэты прытомнасць страціў. Не ведае, небарака, што калі ачуняе, цэны ў два разы вырастуць... Наступны!

## ЧАЛАВЕКАПАТАМ

Прыйшоў з работы затузаны, а цешча адразу ж: «Бач ты, натупаў, як слон! Скінь боты — я толькі што падлогу памыла».

Нешта ўнутры мяне зарыкала, але выканаў моўчкі, пасунуўся ў сваю бярлогу, цьфу, у пакой. Гэтак «капыты адкінуць» нядоўга: ішачыш, нібы конь, на гэтай сабачай рабоце, ды яшчэ маўчаць даводзіцца як рыбе. Дамоў вяртаешся — зноў на цябе гаўкаюць.

А тут яшчэ сусед (казёл!) жонку маю абходжвае: усё рогі мне наставіць імкнецца. Урэзаў бы даўно па хобату, калі б не быў ён такім бугаём. Ды і Манька мая — цаца добрая: у маладосці «тыграм», «арлом» называла, а зараз усё больш «аслом» ды «варонай».

...Словам, падумаў я, падумаў ды падаўся раніцай у заапарк. Здавацца. Перад тым не мыўся, не галіўся прынцыпова — ну і ўзялі на паўстаўкі малпай. Прыязджаў да нас потым прафесар, доўга на мяне праз лупу тарашчваўся, пакуль у рэшце рэшт не назваў «чалавекападобным гібонам».

Чалавекападобным!.. Дзіва: там, за кратамі, мяне клікалі кім хочаш, толькі не ЧАЛАВЕКАМ.

**Цімур КУДЗЕЯР.**



Малюнак Яўгена ЦАРКОВА.



Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

*Сустракаюцца амерыканка, немка і беларуска.*

***Амерыканка:***

*— Вось выйшла я замуж і адразу сказала мужу: гатаваць ежу не буду! Дзень яго не бачу, два не бачу, на трэці дзень ён прыносіць кухонны камбайн, які сам гатуе і мые посуд.*

***Немка:***

*— І я, калі замуж выйшла, таксама мужу сказала, што прыбіраць у кватэры не збіраюся! Дзень не бачу, два не бачу, а на трэці дзень ён прыносіць новы пыласос-аўтамат.*

***Беларуска:***

*— Я таксама, калі замуж выйшла, мужу сказала, што мыць адзенне не буду! Дзень не бачу, два не бачу, на трэці дзень правым вокам пачала ледзь-ледзь бачыць.*

*Віншуем з юбілеем Таццяну Васільеўну ЧАПУРНОВУ. Шчыра жадаем моцнага здароўя, радасці, поспехаў у працы, шчасця ў жыцці.*

**Бацькі, родныя.** г. Мінск.


Фота Уладзіміра ГОФМАНА.

## СЁННЯ

### МЕСЯЦ

**Маладзік — 20 верасня.**
***З 4.21 — 29-ыя месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Дзевы.***

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Архіпа, Міхаіла, Зянона, Давыда, Кірылы**
**К. Канстанцыі, Януара**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі дажджы; вецер слабы. Тэмпература паветра ў Мінску, Віцебску, Магілёве — 13—15, Гродне, Гомелі — 14—16, Брэсце — 15—17 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі 20-га па паўднёвым усходзе пройдуць дажджы. Вецер паўднёва-ўсходні, 5—10 м/сек. Тэмпература ўначы — 3—8, удзень — 12—17 градусаў вышэй нуля.

# ВЫПІЛІ. ЗАКУСІЛІ. АЛЕ НЕ ЗАПЛАЦІЛІ...

## *Пра што паведаміла даўгавая кніга з рэстарана «Дзітва»?*

**«Нядаўна ў нас у Лідскім раёне памянялі старшыню райвыканкама, вызвалілі ад пасады кіраўніка райспажыўтаварыства. Мясцовая газета паведаміла пра сесію раённага Савета дэпутатаў. На сесіі вырашылі не засяроджваць увагу на падзеяз, якія прымусілі старшыню выканкама спадара Блюдніка развітацца з гэтай пасадай. Можа, дэпутатам і так усё зразумела, аднак у большасці выбаршчыкаў дакладнай інфармацыі няма, ходзяць розныя чуткі. Што ж такога дрэннага зрабілі былыя кіраўнікі райвыканкама і спажыўтаварыства? Ці мо яны ні ў чым не вінаватыя, камусьці перайшлі дарогу?»**

*(Са звароту ў гродзенскі карпункт «Звязды».)*

У АДКАЗ на гэтыя пытанні ў Камітэце дзяржаўнага кантролю Гродзенскай вобласці карэспандэнта «Звязды» пазнаёмілі з матэрыяламі праверкі ў Лідскім раёне, якая доўжылася амаль два месяцы. У цэнтры ўвагі правяраючых былі прадукты харчавання, дакладней тое, як карысталіся імі службовыя асобы з райвыканкама і райспажыўтаварыства. Мяркуйце самі, ці ёсць у ацэнцы гэтых абедаў і банкетаў нейкая прадузятасць.

Буфет рэстарана «Дзітва». Раптоўная інвентарызацыя выяўляе, што кудысьці «сплылі» таварныя каштоўнасці на 21,4 мільёна рублёў пры сярэднямесячным тавараабароце 37—41 мільён рублёў. Тут і ежа, і спіртныя напоі. Крадзеж? Ды не, адказваюць кантралёрам буфетчыцы, даўгі, вось вам даўгавая кніга. У ёй сапраўды ўсё пазначана: хто альбо па чыёй заяўцы і на якую суму з'еў і выпіў. Прычым шэраг даўгоў ужо з «барадой» у некалькі месяцаў.

Асноўныя кліенты даўгавой кнігі — кіруючыя работнікі райвыканкама, за якімі запазычанасць на 15,4 мільёна рублёў. Напрыклад, 27 сакавіка з 13 да 15 гадзін 6 чалавек па заказу выканкама выпілі і закусілі на 1 мільён 400 тысяч рублёў. Праз чатыры дні, зноў жа па заказу выканкама — чарговы абед у доўг, у выніку чаго нястача ў рэстаране павялічылася яшчэ на мільён рублёў з гакам.

Вось вам і двайны стандарт. З аднаго боку, буфетчыца павінна сумленна выконваць свае службовыя абавязкі, раённая ўлада, на словах, таксама за парадак ва ўсіх сферах, у тым ліку ў гандлі і грамадскім харчаванні. А на справе — даўгавая кніга, якая «з падачы» кіруючых асоб выканкама і райспажыўтаварыства папаўняецца ўсё новымі запісамі пра абеды і банкеты, закускі і спіртное з сабой і г. д. А каб утаіць нястачу тавараў, камісія з аб'яднання прадпрыемстваў грамадскага харчавання ўключае ў акт рэвізіі неіснуючыя 40 бутэлек гарэлкі, 18 — настойкі, 212 пачкаў цыгарэт.

Паводле тлумачэнняў, якія далі ў гэтым аб'яднанні Камітэту дзяржкантролю, нейкія спробы паўплываць на сумленне заказчыкаў і ўдзельнікаў абедаў у доўг усё ж рабіліся. Тыя абяцалі разлічыцца, а запазычанасць не толькі не скарачалася, а нарастала. Пакуль нястачу не выявіў Камітэт дзяржкантролю. Тут ўжо не спатрэбіліся ніякія ўгаворы, грошы знайшліся імгненна, прычым даволі арыгінальным спосабам. Па ўказанню старшыні праўлення райспажыўтаварыства Анатоля Дуброўскага некаторыя яго падначаленыя сабралі 20 мільёнаў рублёў. У прыватнасці, 5 мільёнаў узялі з выручкі магазіна вёскі Навапрудцы. Такім чынам, каб «залатаць дзіркі» ў адным месцы, стварылі нястачу ў іншым. А далей буфетчыц рэстарана «Дзітва» ўжо проста не лічаць за людзей. Ім прапануюць: бярыце грошы і ад свайго імя ўносьце іх у касу. Гэта значыць прызнавайцеся ў сваіх аферах, а наша, начальнікаў, хата з краю. Не атрымалася. Тады — яшчэ «нумар» з вяртаннем нястачы. Праз лідскае аддзяленне «Белаграпрамбанка» на разліковы рахунак аб'яднання прадпрыемстваў грамадскага харчавання нейкі грамадзянін А. Ю. Пятроў пералічвае 18,2 мільёна рублёў — доўг кіруючых работнікаў райвыканкама і спажыўтаварыства. Аднак слядоў спадара «Пятрова» на тэрыторыі раёна супрацоўнікам Камітэта дзяржкантролю адшукаць не ўдалося. Таму грошы пайшлі не на кампенсацыю нястачы ў рэстаране «Дзітва», а ў даход мясцовага бюджэту.

Такія ж парадкі, як у гэтым рэстаране, былі і ў сталовай райспажыўтаварыства. Як патлумачыла повар, нястача тавараў на суму 3,7 мільёна рублёў утварылася за кошт даўгоў старшыні праўлення А. Дуброўскага, яго намесніка А. Танашкі і іншых спецыялістаў. А «прыняла меры» кіраўнік інвентарызацыйнай камісіі І. Лябецкая, дапісаўшы ў акт 47 пляшак гарэлкі. Па стану на 4 мая сёлетняга года за сталовай лічылася 114 бутэлек 40-грдуснай без прыходных дакументаў.

На складзе аб'яднання прадпрыемстваў грамадскага харчавання выявілі нястачу алкагольных вырабаў на 5 мільёнаў рублёў. 20 бутэлек каньяку, па словах загадчыцы склада, яшчэ ў жніўні мінулага года даставілі з аптовай базы, зноў жа без прыходнай дакументацыі, і праз паўгадзіны забралі са спасылкай на каманду спадара Дуброўскага. Потым «зляпалі» беставарную накладную, а які лёс таго каньяку — невядома.

У якасці «дойных кароў» для аплаты за абеды і банкеты, адпушчаныя ў доўг прадукты і спіртное, як правіла, выкарыстоўваліся мясцовыя калгасы. У бухгалтэрыі аб'яднання прадпрыемстваў грамадскага харчавання наладзілі ўлік запазычанасці райвыканкама. У выканкаме дамаўляліся з гаспадаркамі, а спецыялісты спажыўкааперацыі «малявалі» фіктыўныя дакументы. Аднойчы Лідская птушкафабрыка адмовілася вяртаць чужы доўг бару «Дзітва». І тады да справы падключылі калгас «Іскра». А некаторыя даўгі «завісалі ў паветры».

Асабліва сур'ёзныя парушэнні Камітэт дзяржаўнага кантролю выявіў у калгасе імя Чапаева, на тэрыторыі якога пражываюць цяпер ужо былыя кіраўнікі раёна Антон Дзянісавіч Блюднік і намеснік старшыні райвыканкама Зыгмунт Казіміравіч Чапля. «Ліпавыя» накладныя з прадпрыемстваў грамадскага харчавання на прадукты і алкагольныя вырабы тут аплачваліся пад «маркай» семінараў па догляду пасеваў, падрыхтоўцы да жніва, «Дня працы». 20 пляшак гарэлкі спісалі быццам бы на правядзенне семінару па падрыхтоўцы да сяўбы... Увогуле за 1996-1997 гады ў гаспадарцы незаконна спісалі прадуктаў харчавання і моцных напояў на 32,2 мільёна рублёў. Па словах старшыні калгаса, гэта рабілася па просьбах вышэйстаячага кіраўніцтва накарміць людзей, якія прыязджаюць у раён, — дэлегацыі, камісіі, праверкі. Атрымліваецца, каб госці не галадалі, абавязкова патрэбна афера.

Летась ажаніўся сын А. Блюдніка. Нявыкарыстаную падчас вяселля мясапрадукцыю жонка Антона Дзянісавіча прадала аб'яднанню прадпрыемстваў грамадскага харчавання — 85 кілаграмаў свініны, 60 кілаграмаў цяляціны, 11 кілаграмаў ялавічных языкоў, 6 кілаграмаў супавых набораў. Ветэрынарнага заключэння аб якасці мяса і мясапрадуктаў, нягледзячы на скончаны тэрмін захоўвання, у здатчыцы не патрабавалі. Частку мяса накіравалі ў школьныя сталовыя, а супавыя наборы, як патлумачыла повар мяснога цэха, выкінулі ў адходы з-за дрэннай якасці.

Застаецца дадаць, што цяпер Антон Блюднік працуе кіраўніком прадпрыемства «Лідanафтапрадукт». А матэрыялы праверкі Камітэт дзяржаўнага кантролю накіраваў у пракуратуру Гродзенскай вобласці. Шэраг кіруючых работнікаў пазбавіліся пасад, 9 чалавек аштрафаваны на суму 29,3 мільёна рублёў.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# РАЗЛІЧВАЦЦА З БЮДЖЭТАМ НЕАБХОДНА ДОБРАСУМЛЕННА І Ў ТЭРМІН

**Выкананне плана даходнай часткі бюджэту Беларусі інспекцыямі Дзяржаўнага падатковага камітэта за восем месяцаў гэтага года было разгледжана 17 верасня на пашыраным пасяджэнні яго калегіі. Як паведаміла БЕЛТА прэс-служба камітэта, былі абмеркаваны таксама вынікі работы па ажыццяўленню кантролю за захаваннем падатковага заканадаўства суб'ектамі гаспадарання.**

На пасяджэнні адзначалася, што выкананне плана даходнай часткі бюджэту забяспечана ўсімі інспекцыямі па абласцях і Мінску як па кансалідаванаму, рэспубліканскаму, так і па мясцовых бюджэтах. За восем месяцаў інспекцыямі Дзяржаўнага падатковага камітэта было праверана 36,6 тысячы прадпрыемстваў. 64,5 працэнта з іх парушылі падатковае заканадаўства. Пры гэтым большасць парушэнняў прыпадае на прадпрыемствы недзяржаўнай формы ўласнасці. Зафіксаваны розныя парушэнні падатковага заканадаўства і пры праверцы амаль 60 тысяч прадпрымальнікаў — у 44 працэнтаў з іх.

Па выніках праведзеных праверак прад'яўлена да выплаты падаткаў, іншых абавязковых плацяжоў і фінансавых санкцый на суму 16 трыльёнаў рублёў. З іх значная частка прыпадае на прадпрыемствы недзяржаўнага сектара эканомікі. Да адміністрацыйнай адказнасці за восем месяцаў гэтага года прыцягнута 76,6 тысячы асоб з накладаннем адміністрацыйных штрафаў на суму, якая перавышае 50 мільярдаў рублёў.

**БЕЛТА.**

# РАЗДАВІМ НАРКАМАНСКУЮ ГАДЗІНУ!

**Ні для кога не сакрэт, што рост наркаманіі і колькасць хворых на СНІД у Беларусі набывае вялікія памеры.**

Ужо некалькі месяцаў сумеснымі намаганнямі ТК «Свой круг», Цэнтра прафілактыкі СНІДу і Дзіцячага фонду ААН «Юнісеф» вядзецца праца над сацыяльнай праграмай прафілактыкі наркаманіі і СНІДу. Гэты праект пакуль што не мае аналагаў ні ў айчыннай практыцы, ні ў сусветнай.

Стаўка была зроблена на нефармальных рок-музыкаў — гурты «Пастскрыптум», «Калі Юга», «Акцэнт», «Пані Хіда» і «RAVENS», бо менавіта яны з'яўляюцца кумірамі падлеткаў, якія ў першую чаргу могуць траціць так званую «групу рызыкі». Музыкамі складаюцца песні і распрацоўваюцца тэатралізаваныя пастаноўкі, асноўная мэта якіх — данесці да нігілістычна выхаванага пакалення ўсю жудасць таго моманту, калі можа пачацца гульня са смерцю. На працягу трох восеньскіх месяцаў гэтыя канцэртныя перфамансы будуць адыграны на розных пляцоўках Беларусі, а апошняя шырокамаштабная акцыя адбудзецца ў Мінску 1 снежня. Паралельна з гэтым вядзецца і другая частка праекта. Тэлекампанія «Свой круг» пачала працу над відэакліпамі на гэтыя кампазіцыі. Цікава тое, што відэакліпы будуць выступаць у якасці сацыяльных рэкламных ролікаў і дзякуючы тэлебачанню змогуць уплываць на больш масавую аўдыторыю.

Праект выклікаў зацікаўленасць на Захадзе, і ёсць верагоднасць, што ў хуткім часе ў яго з'явяцца браты-блізняты ў шэрагу еўрапейскіх краін.

**Аляксандр БЯНЬКО.**

*СІТУАЦЫІ*

# КАЛІ КОРМІЦЬ НЕ ЗАРПЛАТА, А ПАСАДА?

**Сёння, калі прадукты харчавання ў цане, жадаючых набыць іх бясплатна надзвычай многа. Калі ёсць магчымасць, прадукты бяруць, крадуць і вымагаюць. Асабліва не сароміецца той, хто мае да іх доступ.**

## Дзеці не скардзяцца

У гарадскім пасёлку Гарадзішча, што за 25 кіламетраў ад Баранавіч, ёсць дом-інтэрнат для дзяцей і інвалідаў. Тут жывуць дзеці з рознымі хранічнымі адхіленнямі, у тым ліку і псіхічнымі.

Трэба прызнаць, што гэта дзеці, як і састарэлыя ў інтэрнатах, пакінутыя раднёй, але не дзяржавай. Ва ўсякім разе, тут іх даглядаюць, апранаюць і кормяць.

У гэтым месяцы дом-інтэрнат у Гарадзішчы наведаў дзяржкантроль. І ўбачылі кантралёры, што тыя, хто павінен карміць дзяцей у адпаведнасці з устаноўленымі нормамі, клапоцяцца не аб дзецях, а найперш аб сабе.

Выявілася, што ў гэты дзень 50 працэнтаў прадуктаў, якія прызначаліся дзецям, укралі.

Мяса і іншыя прадукты былі схаваны ў розных патаемных месцах. У вядро засунулі кілаграм мяса, пад венік схавалі паўтара. У жаночым туалеце знайшлі паўкілаграма масла.

Кралі работнікі кухні, і тут нельга кідаць цень на ўсіх, хто працуе ў інтэрнаце.

А калі кантралёры заглянулі ў халадзільную камеру, то ўбачылі, што яна не працуе, а 33 кг мяса ўжо сапсавалася і непрыгодныя да ўжывання.

Склалі акт праверкі, а назаўтра прыехалі з прадстаўніком санэпідэмстанцыі, каб дакументальна пацвердзіць непрыгоднасць ялавічыны. Але мяса ўжо не было: ім накармілі дзяцей.

Кладаўшчыка аштрафавалі на 7 мінімальных зарплат, повара — на 5, а яго памочніка — на 3.

Не хачу сцвярджаць, але, хутчэй за ўсё, дзеці са свайго рацыёну і кампенсуюць гэтыя штрафы.

Тут існуе праблема зарплаты. У повараў, а іх тут трое, аклад за 800 тысяч, у астатніх работнікаў кухні — за 600 тысяч. Як на такія грошы пражыць? Але здаецца, каб плацілі і па 8 млн., было б тое ж самае. Тут справа маралі.

Забіралі ў дзяцей, якія па стану свайго здароўя не тое што паскардзіцца, але і гаварыць не могуць.

## На рынку, ды пры пасадзе...

Калі работнікі дзяржкантролю наведалі лабараторыю ветэкспертызы столінскага рынку, то дужа здзівіліся. У памяшканні было прыхавана больш за дваццаць кілаграмаў свініны, ялавічыны ды бараніны. Акрамя мяса, там яшчэ была свежая рыба з мёдам, каўбаса з памідорамі і г.д. Работнікі лабараторыі растлумачылі, што гэтыя прадукты ўзяты для аналізу, а потым яны будуць знішчаны.

Цяжка ўявіць, што адборныя кавалкі мяса збіраліся спаліць ці, пасыпаўшы хлоркай, закапаць у зямлю. Трэба думаць, што гэтыя прадукты прызначаліся не толькі для работнікаў лабараторыі.

Падатковая інспекцыя праводзіла апошні раз праверку касавай дысцыпліны ў лабараторыі ветэкспертызы амаль год таму. А парушэнні фінансавай дысцыпліны былі. У касе лабараторыі ляжалі мільёны рублёў, якія на працягу трох тыдняў не здавалі ў касу Столінскай райветстанцыі.

На рынку ветурач — вялікі чалавек. Прадаўцы стараюцца яму не пярэчыць. Не паставіць штамп на тушу — і рабі з ёю што хочаш.

## Завод імпартны — людзі нашы

Напрыканцы мінулага года ў Кобрыне пачаў працаваць мясакамбінат. Аналагічнага прадпрыемства на Беларусі няма. Усё абсталяванне тут фінскае і нямецкае. Націснуў кнопку — і тэхналагічны працэс пайшоў.

Калі з тэхнікай усё ў норме, то з рабочым персаналам ёсць праблемы. Рабочых набіралі «з вуліцы». Калектыў яшчэ не паспеў сфарміравацца.

На прадпрыемстве не хапае абаротнага капіталу, рэнтабельнасць на нулі, а гэта — нізкая зарплата, кепскія бытавыя ўмовы. Ад усяго гэтага і ўзнікаюць пэўныя праблемы з дысцыплінай.

Наша газета ў свой час паведамляла пра буйны крадзеж мясапрадуктаў на Кобрынскім мясакамбінаце. Цяпер ёсць магчымасць расказаць пра гэты факт больш падрабязна. Самы галоўны чалавек на прадпрыемстве — яго кіраўнік. А далей ідуць намеснікі ды розныя начальнікі. Гэта ўжо ў адпаведнасці са штатным раскладам. Але і асабісты шафёр дырэктара для навакольных — чалавек не апошні.

Сваё становішча і выкарыстаў вадзіцель Э. Буракоў. На Вялікдзень, 19 красавіка, ён прыехаў на сваім аўтамабілі на мясакамбінат. Там перасеў у службовую «Волгу», загрузіў у аўтамашыну амаль 250 кг мясных далікатэсаў і выехаў за межы камбіната. А тут ужо яго чакала брэсцкая міліцыя. Буракоў паспрабаваў уцячы, але яго затрымалі праз 10 км, у лесе.

Калі б ахоўнікі не знаходзіліся пад гіпнозам дырэктарскай «Волгі» і зазірнулі ў багажнік, то крадзяжу не было б. А па-другое, адзін шафёр нічога не зрабіў бы, яму дапамагла начальнік цэха Н. Бехцер.

Прадукты на камбінат вярнулі, ахову памянялі, а вінаватых асудзіў Бярозаўскі райсуд. Шафёр і начальнік цэха атрымалі па 2 гады папраўчых работ з утрыманнем 25 працэнтаў з заробку.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**




Фота Максіма МАЛІНОЎСКАГА.

# Валютны «чорны» рынак папаўняе дзяржбюджэт

**Беларускія падатковыя і праваахоўныя органы працягваюць барацьбу з парушальнікамі правілаў ажыццяўлення валютных аперацый у краіне, тым самым даволі паспяхова папаўняючы дзяржаўны бюджэт.**

Як паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага падатковага камітэта, у ходзе рэйдавай праверкі супрацоўнікамі інспекцыі гэтага ведамства сумесна з работнікамі міжраённага аддзела Дзяржкамітэта фінансавых расследаванняў за парушэнне Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 лютага 1997 года № 1 «Аб мерах па забеспячэнню парадку пры ажыццяўленні валютнаабменных аперацый» затрыманы грамадзянін В.Г. Зайцаў. У яго было канфіскавана 4,7 млн. беларускіх рублёў, 43,7 тыс. рублёў Расійскай Федэрацыі, 150 нямецкіх марак, 4613 долараў ЗША і нават 245 украінскіх грыўняў.

Акрамя страчаных «сваіх кроўных» грошай Зайцаў быў аштрафаваны на 9 млн. беларускіх рублёў.

**Сяргей КУЗНЯЦОЎ.**

# «Пасля Камуніі»



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## НА РЭЙКІ ВЫЙДЗЕ БЕЛАРУСКІ ТРАМВАЙ?

**На разглядзе ў Камітэце па навуцы і тэхналогіях знаходзіцца праект праграмы вытворчасці ў Беларусі трамвайных вагонаў.**

Распрацоўшчыкамі гэтага дакумента сталі спецыялісты вытворчага аб'яднання «Белкамунмаш». Як вядома, прадпрыемства напачатку займалася рамонтам тралейбусаў і трамваяў. Аднак сёння «Белкамунмаш» паспяхова не толькі рамантуе, але і выпрабляе тралейбусы.

Трамвайны парк рэспублікі ў асноўным складаецца з вагонаў, выпрабленых у Латвіі. Аднак Рыжскі завод з 1985 года практычна спыніў вытворчасць гэтага віду гарадскога электратранспарту і запасных частак да яго.

Тым не менш, спецыялісты сцвярджаюць, што за гэтым сродкам перамяшчэння будучыня. Запоўненасць гарадскіх вуліц прывяла да ўтварэння пробак, у той час як асобна пракладзеная каляіна дае перавагу рэйкаваму транспарту. У дадатак выкарыстанне новых эканамічных тэхналогій дазваляе ператварыць трамвай у сродак, здольны развіваць высокую скорасць. Нельга пакінуць без увагі і экалагічнасць гэтага віду электратранспарту. У шэрагу краін Еўропы, напрыклад, Германіі, Францыі, Швецыі, ужо адбылося «другое прышэсце» трамвая на вуліцы гарадоў.

Па меркаванню спецыялістаў Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, а таксама ВА «Белкамунмаш», якое ўваходзіць у сістэму міністэрства, ёсць сэнс аднаўляць трамвайны парк рэспублікі за кошт арганізацыі вытворчасці вагонаў у Беларусі. Гэта дазволіць забяспечыць работай жыхароў краіны і папоўніць сродкамі бюджэт дзяржавы.

Згодна з праектам праграмы, на першым этапе прадпрыемства плануе правесці мадэрнізацыю машын, што яшчэ не выпрацавалі свой рэсурс, змяніўшы іх дызайн і сістэму кіравання на эканамічную. Адначасова пачнецца распрацоўка вагонаў з выкарыстаннем апошніх дасягненняў і тэхналогій. Распрацоўшчыкі не сумняваюцца, што беларускі трамвай будзе не горшы за сучасныя замежныя аналагі.

Як паведаміў намеснік генеральнага дырэктара ВА «Белкамунмаш» Уладзімір Нікалаеў, у канструкцыі айчыннага трамвая закладваецца максімальнае выкарыстанне камплектуючых, што вырабляюцца на тэрыторыі рэспублікі. У прыватнасці, метал набываецца ў Жлобіне, шкло — у Гомелі, гума — у Бабруйску. Аднак шэраг вузлоў будзе набывацца за межамі Беларусі. Па жаданню заказчыка працэнт імпартных камплектуючых можа быць зніжаны ці наадварот. Першым беларускім трамваем, калі праграма будзе зацверджана, стане «сола»-машына, а праз колькі часу з'явіцца і трамвай-«гармонік».

Па словах Уладзіміра Нікалаева, прапанаваная праграма разлічана на пяць гадоў, і калі да яе рэалізацыі прадпрыемства прыступіць ужо ў студзені наступнага года, як прадугледжана праектам, то ў самым пачатку наступнага тысячагоддзя, у 2001 годзе, беларусы змогуць пракаціцца на трамваі, выпрабленым на радзіме.

Дададзім, што тэрмін службы гэтага перспектыўнага сродку перамяшчэння, — 18 гадоў. У краіне, па словах намесніка начальніка ўпраўлення камунальнай гаспадаркі і экалогіі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Аляксандра Літвіна, сярэдні ўзрост трамваяў набліжаецца да 13 гадоў. Парк гэтых машын складае на сённяшні дзень 357 вагонаў, з якіх 86 падлягаюць спісанню. Рэалізацыя прапанаванай праграмы дазволіла б насыціць не толькі айчынны, але і расійскі рынак, дзе ёсць высокі попыт і няма прапанавання з боку мясцовых вытворцаў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*МОДА*

## МІНІМАЛІЗМ НАПРЫКАНЦЫ СТАГОДДЗЯ

**Ёсць адно пытанне, адказ на якое кожная жанчына шукае з надыходам чарговай пары года. З ім мы звярнуліся да прафесіянала, чалавека, які працуе ў галіне моды ўжо дваццаць гадоў, — галоўнага мастацкага кіраўніка Беларускага цэнтра моды Ніны АСТАПЕНКА.**



— Мода любіць сумленныя адносіны да сябе, і вельмі шкада, што мы не можам кіраваць тым светам моды, які прыходзіць да нас зусім не з подыумаў. З-за неахайнасці церпяць у першую чаргу пакупнікі, бо крыху скажаецца густ з-за таго, што нярэдка прапануецца ўчарашняя мода. У свеце, напрыклад, платформу не носяць ужо два гады, а ў нас ад яе не адмовіліся да гэтага часу. У маладзёжнай модзе адбываюцца вялізныя змены, а ў нас аддаюць перавагу, як мне нядаўна сказалі, «эксклюзіўнаму элегантнаму касцюму». Імкненне быць жаноцкай яшчэ захоўваецца, хаця ўздзеянне мужчынскага стылю сёння вельмі моцнае. Трыумфаванне мінімалізму працягваецца і, напэўна, гэта звязана з заканчэннем XX стагоддзя. Напрыканцы стагоддзя так адбываецца заўсёды — ніякага змяшання, наадварот, удасканаленне стылю. Адточваюцца лініі сілуэта, суадносіны прапорцый. Вялікае значэнне надаецца індывідуальнаму вобразу і стылю. Відавочна, у сувязі з гэтым мода дапамагае жанчыне выглядаць моднай і сучаснай. Дастаткова сёння апранацца проста і лаканічна, не забываючыся на гармонію колераў. На восень усе стылісты свету прапануюць самыя прыемныя фарбы: шэры, зялёны, бэжавы, тэракотавы, чорны, няшмат фіялетавага і няшмат бардовага. Яркімі адценнямі гэтую гаму можна разбавіць і стварыць стыль далікатна-прываблівы, нават крыху гуллівы. Але гэта не вялікія кантрастныя плямы, а маленькія акцэнты. Пры такой спакойнай колеравай гаме вялікае значэнне маюць аксесуары. Абутак, сумка, парасон павінны быць якаснымі, дарагімі, прыгожымі. Знешні выгляд павінен быць рэспектабельным. Касцюм сёння вельмі спрашчаецца: дакладны сілуэт, прамая лінія штаноў, умераная даўжыня спадніцы, суаднесенасць прапорцый.

У маладзёжнай жа модзе існуе пэўная экстравагантнасць і ў абляганні, і ў аб'ёмах. Маленькі верх — шырокі ніз і наадварот. І абавязкова абутак у авангардным стылі.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## ДЭФІЦЫТ ВАРАНЫХ КАЎБАС — ГАЛАЎНЫ БОЛЬ СТАЛІЧНАГА ГАНДЛЮ

**Не сакрэт, што патрэбы Мінска ў такой «стратэгічнай» харчовай прадукцыі, як каўбасы, задавальняюцца адпаведнымі сталічнымі прадпрыемствамі толькі на 20 працэнтаў, з якіх недзе 16 працэнтаў прыпадае на Мінскі мясакамбінат. Астатнія 80 працэнтаў завозяцца з іншых рэгіёнаў краіны. Але, як і раней, Мінск адчувае зараз пэўны дэфіцыт з пастаўкамі ў гандаль вараных каўбас.**

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў аддзеле гандлю харчовымі таварамі Галоўнага ўпраўлення спажывецкага рынку Мінгарвыканкама, патрэбы горада пакрываюцца зараз на 65—70 працэнтаў. Штодня сталіца атрымлівае да 90 тон вараных каўбас, але гэтага недастаткова, таму такія жаданыя для многіх батоны перыядычна знікаюць з прылаўкаў магазінаў. У чым справа на гэты раз? Прадпрыемствам жа ў іншых рэгіёнах таксама даведзены планы на пастаўку ў сталіцу гэтай прадукцыі.

Сітуацыю часткова патлумачыў дырэктар мінскага мясакамбіната Іван Гадун: «Дэфіцыт вараных каўбас адчуваецца таму, што не хапае мяса для іх вытворчасці, хаця, калі гаварыць пра нас, мы сваю норму паставак выконваем».

— Іван Аляксандравіч, літаральна днямі кіраўніцтва абодвух сталічных халадакамбінатаў запэўніла мяне, што з мясам ніякіх праблем няма...

— Так, бо яны маюць больш выгадную закупачную цану — на 10—15 працэнтаў вышэйшую, чым у нас. Таму ў іх і больш магчымасцяў для назапашвання і патушнай рэалізацыі потым мяса. Калі ж я куплю мяса па той цане, я адразу павінен буду залажыць яе ў сабекошт, што аўтаматычна вядзе да павелічэння цаны на гатовую прадукцыю. Гэтага, як вядома, рабіць нельга, а калі нават купіш мяса — усе страты лягуць на прадпрыемства.

— Выходзіць, сыравіна да вас проста не даходзіць?

— Так, калгасы і саўгасы хутчэй прададуць мяса на халадакамбінаты, чым нам. Напрыклад, пасля наведвання нашага камбіната прэзідэнтам быў устаноўлены жорсткі графік пастаўкі жывёлы на перапрацоўку — 90 тон мяса ў дзень. Але ён не вытрымліваецца: мы маем штодзень ад 60 да 70 тон мяса.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## «ВАЛЮТЧЫК» — ПРАФЕСІЯ ВЫМІРАЮЧАЯ?..

**У рэспубліцы, мяркуючы па ўсім, аб'яўлена татальная вайна «валютчыкам». У «сеткі» праваахоўных органаў, як сведчыць міліцэйская статыстыка, часам трапляецца акрамя драбязы і больш буйная «рыба».**

Так, у Мінску супрацоўнікамі Фрунзенскага РАУС затрыманы жыхар сталіцы, які меў неасцярожнасць парушыць дэкрэт прэзідэнта. Работнікі міліцыі канфіскавалі ў яго 351 мільён рублёў і 390 долараў ЗША.

У Магілёве затрыманы за незаконныя валютныя аперацыі мясцовы жыхар. У яго, праўда, канфіскавана больш сціплая сума — 34,6 мільёна рублёў, 8350 рублёў Расіі, 1256 долараў ЗША і 200 нямецкіх марак.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## ГАНДЛЁВЫЯ НАДБАЎКІ — ПАД РАНЕЙШЫМ КАНТРОЛЕМ

**Як паведамілі днямі расійскія сродкі масавай інфармацыі, улады, у прыватнасці Масквы, узялі пад жорсткі кантроль цэны на харчовыя тавары.**

**Падкрэслівалася, што для прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці памер гандлёвай надбаўкі быў абмежаваны гранічнымі 20 працэнтамі.**

Па словах начальніка аддзела фінансаў і цэн Галоўнага ўпраўлення спажывецкага рынку Мінгарвыканкама Ніны Макоўка, у нас гандлёвыя надбаўкі на ўсе віды тавараў ніхто не адмяняў і не пераглядаў. Яны вагаюцца ад 10 (на такія сацыяльна значныя тавары як хлеб, малако, мяса і інш.) да 30 працэнтаў.

Датычаць яны толькі дзяржаўнага гандлю, бо, як зазначыла Ніна Васільеўна, у камерсантаў цэны на тавары свабодныя, залежаць найперш ад цаны закупкі.

Што датычыць татальнага кантролю гандлёвых кропак на прадмет магчымых парушэнняў у Расіі, дык у нас ён таксама «праводзіўся, праводзіцца зараз і будзе праводзіцца ў далейшым». Ніна Макоўка паведаміла, што ніякіх злоўжыванняў у айчынным дзяржгандлі, звязаных з гандлёвымі надбаўкамі, за апошні час не выяўлена.

«У выпадку парушэнняў уся розніца ідзе у бюджэт, а з магазіна яшчэ дадаткова спаганяюцца штрафныя санкцыі ў такім жа памеры».

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## КАМАРОЎКА ПА-РАНЕЙШАМУ ЖЫВЕ І ...ДАРАЖЭЕ

**Аксіёма, не раз правераная жыццём: якія б катаклізмы ні ўзрушалі наша жыццё, славутая Камароўка заўсёды працягвае жыць сваім будзённым жыццём. У гэтым яшчэ раз пераканаўся карэспандэнт «Звязды», калі наведаў учора ўдзень галоўны харчовы рынак сталіцы.**

Па-першае, народ ужо абсалютна перастаў цікавіць цукар. Вядома, і запасы даўно зроблены, і сезон нарыхтоўкі садавіны амаль скончаны. Не сказаць, каб салодкага пяску было шмат, але і той — па 43 тысячы рублёў за кілаграм — не хапалі. За чым зараз стаяць у чэргах на адкрытай аптова-рознічнай гандлёвай пляцоўцы, дык гэта за грэцкімі групамі і рысам. Кошт гэтай прадукцыі аднолькавы — 57—60 тысяч рублёў. Але найбольшай папулярнасцю карыстаюцца машыны, дзе оптам грэцкія крупы і рыс прадаюць па 50 тысяч рублёў. Мала пакупнікоў і на муку — яшчэ крыху бяруць расійскую вышэйшага гатунку па 25—26 тысяч рублёў за кілаграм, а вось на венгерскую па 30 тысяч ужо і не глядзяць.

Па-другое, значна збяднеў асартымент імпартнага алею. З рынку цалкам знікла ўжо добра вядомая спажыўцу венгерская, чэшская прадукцыя. У продажы зараз зусім невядомыя гатункі алею з Прыбалтыкі. Яшчэ адзін непрыемны момант — алей у чарговы раз падаражэў. За бутэлькамі самага таннага літоўскага алею па 135 тысяч рублёў імгненна выстраілася чарга, нават больш вядомую прадукцыю «BRO-LIO» побач за 140 тысяч рублёў ніхто не хацеў браць. Астатнія гатункі раздражнялі лічбамі ад 145 да 155 тысяч рублёў за бутэльку.

Гэтак жа сама збяднеў і асартымент маянэзу, а таксама маргарыну — апошні быў прадстаўлены нячастай расійскай «Расінкай» па 33-34 тысячы рублёў за пачак. Паменеў і выбар добра вядомай пенсіянерам «Рамы». Зрэшты, на яе ніхто і не «кідаўся» — 500-грамовая ўпакоўка германскай вытворчасці каштавала 90 тысяч рублёў.

Па-трэцяе, некалькі разоў заўважыў на Камароўцы «таварыствы» спажыўцоў, у састаў якіх уваходзіць некалькі састарэлых жанчын. Вядома, што калі браць оптам тавар, цана больш выгадная. Шэсць бабулек такім чынам прыдбалі ўпакоўку добрага імпартнага алею, якую тут жа імгненна і падзялілі. Хаця іх равесніца следам за імі ўзяла такую ж ўпакоўку для сябе адной, сказаўшы нешта накшталт таго, што танней не будзе.

Па-чацвёртае, амаль усе курцы, калі хто аддаваў перавагу выключна «цыгарэтам беларускай інтэлігенцыі» «LM» — зараз як адзін перайшлі на «Саюз-Апалон». Вядома, блок апошняга каштуе 370 тысяч рублёў, а «LM» — 515 тысяч, не кажучы ўжо пра больш шыкоўныя гатункі, кошт якіх за блок набліжаецца да мільёна рублёў. З айчынных тытунёвых вырабаў набірае «ачкі» «Астра-люкс» па 20 тысяч рублёў за пачак — нядаўняя навінка з нядрэннай для гэтага класа цыгарэт якасцю.

Па-пятае, далёка не ўсе гандлёвыя месцы абслугоўваюць пакупнікоў, нават калі яны і адчынены. Відаць, многія да гэтага часу цяжка арыентуюцца ў тым, што адбываецца, бо новыя цэннікі выпісваюцца літаральна на вачах пакупнікоў.

У цэлым Камароўка, калі браць пад увагу толькі імпартныя харчовыя і нехарчовыя тавары, зноў падаражэла. Яшчэ некалькі прыкладаў. Бляшанка венгерскай кансерваванай кукурузы «цягне» ужо на 55 тысяч рублёў, бляшанка шпротаў — 40—42 тысячы, кілаграм хека — 180, вялікая бляшанка кавы «Пеле» — 220 тысяч, малая — ужо 110 тысяч рублёў.

Добра толькі таму, хто прыйшоў на рынак за айчынным. Агуркі — 20—22 тысячы рублёў за кілаграм, капуста — 13 тысяч, бульба — 12—15 тысяч рублёў. Не змяніліся цэны і ў мясных радах.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## «НОВАЙ ЗЯМЛІ» — НОВАГА ЖЫЦЦЯ!

Знаходзячыся ў Мінску з нагоды правядзення навуковай канферэнцыі, прысвечанай 200-годдзю Адама Міцкевіча, Вера Рыч і Чэслаў Сенюх не маглі не наведаць Коласаву сядзібу, Коласаў дом. Бо любяць і цэняць песняра і хочуць, каб творы вялікага беларуса ведалі і ў іх краінах:Вера Рыч перакладае народнага паэта на англійскую мову, Чэслаў Сенюх — на польскую.

Адбылася цёплая, нязмушаная гаворка. Пачала яе навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, унучка Якуба Коласа Марыя Міцкевіч.

Госці расказалі пра свае творчыя турботы, прачыталі ўрыўкі са славутай «Новай зямлі». А паэму з асалодай і адказнасцю перакладаюць абое. Чэслаў Сенюх «перагнаў» ужо на польскую 15 раздзелаў (гэта палова ўсяго твора).

Хай жа спорыцца ім у працы, хай далей у свет ідзе наша «Энцыклапедыя»! Казаць такое пажаданне асабліва люба сёлета, калі шэдэўру беларускай паэзіі споўнілася 75 гадоў.

**Сцяпан ІВАНЧЫК.**

## З ЧАЦВЁРТАГА Ў СЁМЫ КЛАС

Літаральна пакарыў журы сваёй ігрой на конкурсе юных піяністаў Міншчыны, які яшчэ напрадвесні адбыўся ў г. Дзяржынску, вучань 4 класа музычнай школы г. Заслаўе Андрэй Кушчанкоў. Гэта і вызначыла яго лёс.

Юны талент запрасілі на праслухоўванне ў Акадэмію музыкі і прапанавалі паступаць у музычны ліцэй пры БАМ. Прычым выканальніцкае майстэрства пачынаючага музыканта, на думку акадэмічнай прафесуры, «пацягнула» адразу на сёмы клас, куды і залічылі адоранага хлопчыка пасля паспяхова здадзеных экзаменаў.

Андрэй да таго ж, захапляецца паэзіяй, піша вершы, добра малюе.

Дарэчы, яго былы педагог з музычнай школы Ж.М. Акопава ўжо дала пуцёўку ў свет музыкі многім сваім выхаванцам.

**Алена КЛІМОВІЧ.**

# ЛЯЎКІ. ЗНОЎ ВЕРАСЕНЬ





У Ляўках свята. Завецца яно Восень і запрашае на свой баль усіх, хто любіць, калі пад шэпт аблятаючага залатога лісця гучаць вершы Янкі Купалы. Тут было напісана шмат — народны пясняр на працягу пяці гадоў жыў і працаваў на гэтай дачы. На гэтай зямлі ўпершыню прагучалі вершы «Сонцу», «Алеся», «Лён», «Сосны», «Госці», «Вечарынка»...

«Ляўкоўскі цыкл». Яго нельга ўяўляць без гэтага ўрочышча, без магутнай плыні ракі, без велічных дубоў вакол дачы, што з году ў год усыпаюць паляны жалудамі, каб новыя пакаленні волатаў раслі-мацнелі на купалаўскай зямлі.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

*Аршанскі раён.*

**На здымках:** *каля бронзавага помніка, зробленага да 100-годдзя песняра скульптарам А. Анікейчыкам; Аляксей УПЕНІК — рабочы Купалаўскага запаведніка — даглядае паляны і пабудовы; рабочы пакой паэта — адно з памяшканняў Купалаўскага мемарыяльнага запаведніка «Ляўкі».*

**Фота аўтара.**

***АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ***

# МНЕ ЎСЁ ВЕРЫЦЦА

Вясною 1997 года ў Белдзяржфілармоніі, на вечарыне, прысвечанай творчасці Якава Навуменкі, адбылася прэм'ера песні «Мне ўсё верыцца», напісанай спеваком на верш Уладзіміра Мазго. У музыцы выразна выявіўся характар творцы. Нават успамін пра каханне, што шугавеем пранеслася над лёсам год таму, пададзены ў песні аптымістычна, прасветлена. Праз нейкі час быў зроблены запіс вакальнага твора для фанатэкі Белтэлерадыё і ў жніўні прадстаўлены ў радыёперадачы «Песня для вас». Цяпер ён пастаянна гучыць па радыё і на канцэртах Якава Навуменкі.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




Ідуць бясконцыя дажджы,
А горад сумны і чужы.
І сэрца просіцца назад —
У светлы лістапад,
Дзе мы сустрэліся з табой
І ты сказала: «Любы мой!..»
І кожны ліст
Пад ветру свіст
Спяваў, нібы саліст.

**Прыпеў:**
Мне ўсё верыцца:
Шчасце вернецца
Светлай просінню
гэтай восенню.

Толькі лепшае
сёння збудзецца,
А найгоршае —
ўсё забудзецца!..

Скідае восень жоўты плашч,
А я спяшаю ў скверык наш,
Дзе мне патушыць боль-агонь
Кляновая далонь...
І мне здаецца: гэта ты
Мяне закружыш, як тады,
Пад шум прысад,
Як год назад —
У светлы лістапад...
**Прыпеў.**

***З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА***

**Міхась СКОБЛА**



## Міцкевіч у Кракаве

У касцёле — да ранку кленічы.
А з-пад крыпты
сырой зімою
у малітву прасіўся,
калеючы,
шэпт: o Litwo, Ojczyzno moja.

Зноў паэты не маюць рацыі.
Зноў скляпенні, нібы ў цагельні.
Прымусовай рэпатрыяцыі
заслужыў пасля смерці геній.

.................................

«Сніцца лета
з дажджом-залевамі,
сніцца Свіцязь... А тут ад смагі
з каралямі і каралевамі
аж парэпаліся саркафагі.

Храм вялікі. Святыя рызамі
захінуць і насвенцяць булак —
я сваім землякам бязвізавым
палітычны даю прытулак.

Сам хаваўся.
Мой Край няславілі.
Слову ж нашаму — быць пачуту.
Збройны вершнік,
на вежы Вавеля
пажыві, перацерпім смуту.

Пану Богу святое самае
пра радзіму шапні на вушка.
Глянь — уздыбіў каня
над брамаю
брат-ліцвін генерал Касцюшка».

.................................

Істамбул, Парыж —
скрозь аднакава
па чужыне брысці з сумою...
Сатрасаў камяніцы Кракава
шэпт: o Litwo, Ojczyzno moja.

## Свіцязь

Жнівеньскі купал нябёсаў
заспаны
ў фрэсках пункцірных вышэй
над зямлёй —
аж да відна Вадалівы і Панны
знічкамі звыклі гуляць між сабой.

З небам радніцца —
зайздросная доля.
Бераг наструніўся —
не падыходзь.
Возера свеціцца, як жырандоля,
што апусціў
у дуброву
Гасподзь.

## Бортнікі

*М. Л.*

Суцішыцца чорнае птаства.
На могілках вецер прысне,
дзе — госцем
з Вялікага Княства —
пчаліны дамок на сасне.

Усе, каго ў сумным эскорце
радзіма сюды прывяла,
дзівуюцца радасна — ў борці
над імі шчыруе пчала!

У перанаселенай вёсцы,
дзе вечна гасцюе жальба,
а помнікі-крыжаносцы
каменна глядзяць з-пад ілба,

не ўлежыць і стомлены самы,
калейка прыйшла і — ўваскрэс,
і ўжо рукавы закасаны,
і лашчыць руку медарэз.

Сябруюць, — хто пчолаў
падгледзеў,
хто раіў, хто борць выдзяўбаў.
На лазьбіны клічуць суседзяў —
ёсць месца і там для забаў.

Як збрыдне і духу, і вуху
знікчэмнелы, пошасны свет —
пад соснамі на медавуху,
у бортнікі пойдзе паэт...

## Чарнобыльская талака

Восень мае выгляд палахліўца,
золата раздаўшы напавер.
З елкі пасівелая ігліца
церусіцца яру за каўнер.

Валакуць ціхмяна, без пярэкі
валавяна-цяжкую ваду,
як валы, натомленыя рэкі,
паплавы паскубшы на хаду.

Станьце на калені прад ракою!
Што зрабіць не здолеў чалавек,
робяць без аддыху талакою
дваццаць тысяч беларускіх рэк.

Ачышчаюць чарназём і гліну,
хоць пабольвае хрыбціна дна,
дзень і ноч адбельваюць краіну,
як даўней сувоі палатна.

Ліхань* і плутонь
жывым не трэба.
Каб ўратаваць суседні свет,
упадаюць рэкі нашы ў неба! —
паглядзіце з моста ім услед.

Там як бач анёлаў пілігрымкі
вырушаць сярэдначы ў сусвет,
каб зрабіць рэнтгенаўскія здымкі
змучаных адышкаю планет.

** Так прапануецца назваць радый.*

***УСЁ ПРА ЎСЁ***

### КАЛІ ВЫ ЛЮБІЦЕ СВАЙГО САБАКУ...

Як вы лічыце, хто больш за ўсіх пакутуе пры распадзе сям'і: ён, яна, іх дзеці ці бацькі? У паўднёва-афрыканскага вучонага Роджэра Магфорда сваё меркаванне наконт гэтага.

Ён сцвярджае, што мацней за іншых перажывае вынікі разводу сабака. Упэўніўся ён у гэтым на ўласным вопыце. Яго сабака па мянушцы Сэм прайшоў разам з гаспадаром праз шлюбаразводны працэс. Сабака, як лічыць вучоны, вельмі хваравіта рэагуе на самыя нязначныя змены ў навакольным жыцці, што можа выклікаць у яго сур'ёзныя нервовыя захворванні, экзему і расстройствы страўніка.

### ТРЫ ГЛЫТКІ САКЭ — І ВЫ ЗАМУЖАМ

Такі звычай існуе падчас традыцыйнай японскай вясельнай цырымоніі. Як толькі пара маладых вып'е з трох маленькіх кубачкаў па тры глыткі сакэ, шлюб лічыцца заключаным. Напой рыхтуецца для кожнага ўрачыстага выпадку па спецыяльнай рэцэптуры. Ужываюць сакэ цёплым, падагрэтым да 50 градусаў.

### ТУМАН У КВАТЭРЫ

Французская фірма DAITEM прапанавала далучыць да кватэрнай сігналізацыі ад зладзеяў невялікі апарат, што напаўняе пакой густым малочна-белым дымам у выпадку пранікнення ў кватэру каго-небудзь чужога ў адсутнасць гаспадароў.

Супрацоўнікі фірмы сцвярджаюць, што дым не шкодны ні чалавеку, ні жывёлам, ні раслінам, а таксама не пакідае паху і слядоў на мэблі і шпалерах. Перамяшчацца па кватэры злодзей не зможа, і яму застанецца толькі навобмацак бегчы ці здацца паліцыі.

### У ФРАНЦЫІ ДЗЕСЯЦЬ ВАЎКОЎ

Так, менавіта столькі шэрых ваўкоў знаходзіцца там на сённяшні дзень.

Колькасць гэтых драпежнікаў, пра лёс якіх да гэтага часу не сціхаюць спрэчкі сярод вучоных і паляўніцтвазнаўцаў, у Еўропе невялікая. І шанцаў выжыць у іх мала (за выключэннем Расіі). З кожным годам іх становіцца ўсё менш і менш.

У адным з апошніх нумароў амерыканскага часопіса «Інтэрнэшнл уайлдлайф» прыведзены даныя аб колькасці ваўкоў у краінах Еўропы. Згодна з імі, у Расіі на сёння налічваецца 50—60 тысяч ваўкоў. У Румыніі — 2500, і колькасць іх паступова павялічваецца, таму што гэты драпежнік абараняецца там законам. У Польшчы — 900, у Партугаліі — 250, у Фінляндыі — усяго 150. Зусім адзінкі сустракаюцца ў некаторых іншых краінах: у Германіі — 15, у Швецыі — 25. Вось як жывецца ваўку ў цывілізаванай Еўропе!

### ДЭЛЬФІНЫ І КАНТРАБАНДЫСТЫ

На захадзе Мексікі хвалі вынеслі на бераг трупы шасцідзесяці дэльфінаў. Няшчасныя марскія млекакормячыя сталі ахвярамі кантрабандыстаў наркотыкаў.

Справа ў тым, што кантрабандысты ўначы выліваюць у мора з лодак сумесь цыяніду з флюарэсцэнтным рэчывам. Мора ў гэтым месцы пачынае свяціцца, паказваючы самалёту, куды скідваць наркатычны груз.

Калі рэчыва пачынае распадацца, цыянід атручвае ваду на вялікай акваторыі. У выніку за апошні час у заліве загінула больш як чатырыста дэльфінаў. А колькі рыбы, ніхто і не ведае.

**По матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

# ФІНАНСАВЫ ПОСПЕХ ЧАКАЕ ВАДАЛЕЯЎ, А ВОСЬ СКАРПІЁНАМ ПАШАНЦУЕ МЕНШ

КАЗЯРОГ у канцы тыдня атрымае радасную вестку аб прыбаўленні ў сям'і. Гэтая навіна прымусіць забыць аб клопатах папярэдніх дзён, не адчуваць стомленасці ад работы, узваленай на вас звыш усякай меры няўмольным начальствам. На жаль, зоркі не могуць парадаваць добрай весткай аб паляпшэнні матэрыяльнага становішча, пакінуўшы гэта, верагодна, на бліжэйшы час.

ВАДАЛЕЙ даведаецца, што яго старанні дапамаглі палепшыць фінансавае становішча і павялічыць накапленні. Вам трэба будзе рыхтавацца да новых дзелавых прапаноў ад партнёраў. Выгадныя кантракты чакаюць дзеячаў кіно, якім выпадзе магчымасць адправіцца ў творчы паход за мяжу. Ключы ад новай кватэры ў прэстыжным доме атрымаюць тыя шчаслівчыкі, якія не пашкадавалі на яе грошай.

РЫБЫ павінны праявіць пільнасць. Ваш партнёр мае намер заманіць вас у свае сеткі абяцаннямі выгаднай здзелкі, а потым паспрабаваць аблапошыць і застацца з выгадай. Закаханым парада: не давяраць знешнасці свайго партнёра, якая акажацца падманлівай. Крызіс у краіне прымусіць бізнесменаў адмяніць замежнае турнэ, а астатнім Рыбам астролаг рэкамендуе пазбягаць дыскусій з роднымі на сямейныя тэмы.

АВЕНЫ будуць задаволены тым, што ўдала ідуць справы дзякуючы цвёрдай фінансавай пазіцыі і ўдачы, якая звалілася з нябёс. Аднак пакуль не спяшайцеся з інвестыцыямі ў новы бізнес, а захоўвайце сродкі, дзе лічыце патрэбным. Дзяржслужачым трэба будзе нямала папрацаваць, але ў выніку яны атрымаюць значнае ўзнагароджанне. Ім «свеціць» таксама павышэнне па службе, і таму не варта мяняць месца работы.

ЦЯЛЬЦЫ адкрыюць новы бізнес з удзелам сваякоў і блізкіх сяброў. Планеты паказваюць, што справы пойдуць як па масле, і таму адмоўцеся ад сумненняў і ваганняў. Добрыя дывідэнды прынясуць фінансавыя здзелкі, а кантракты з партнёрамі акажуцца прадуктыўнымі. Некаторых Цяльцоў чакае перавод на новае месца службы, а некаторых — захапляльны адпачынак ў канцы тыдня.

БЛІЗНЯТЫ прайграюць, калі дадуць волю пачуццям, не будуць кантраляваць свае ўчынкі і будуць працягваць рабіць неабдуманыя крокі. Прычын для расстройства ў вас акажацца больш чым дастаткова, але не спяшайцеся рабіць фатальныя высновы. Усё яшчэ наладзіцца, і нават калі вучоны будзе вымушаны займацца банальным рэпетытарствам, то ў яго ўсё роўна акажацца многа часу для навуковай работы.

РАКУ давядзецца ўнесці карэктывы ў сваю дзейнасць і адправіцца ў паездку кудысьці на Усход па службовай неабходнасці. У фінансавых адносінах тыдзень акажацца многаабяцальным, і не толькі з-за выплаты такой чакаемай зарплаты. У вялікім барышы акажуцца гандляры нерухомасцю, дылеры, пасрэднікі і транспартныя агенты.

ІЛЬВЫ акажуцца на вышыні, калі больш увагі ўдзеляць дзецям, адукацыі і не адмовяцца ад падарожжаў па цудоўных мясцінах. Стан бізнесу і здароўя не заўсёды будуць радаваць, але ўжо такая ваша доля. Не станавіцеся на горла ўласнай песні, і калі ўжо пацягнула на рамантыку, то аддайцеся гэтаму захапленню з усёй моцай вашых бурлівых пачуццяў.

ДЗЕВА значна палепшыць сваё фінансавае становішча і пачне супрацоўнічаць з замежным партнёрам. Не бойцеся ўносіць у кантакты з ім навізну. Давярайцеся сваёй прадпрымальніцкай інтуіцыі, шукайце новыя выхады, а ўжо выхады з цяжкай сітуацыі паявяцца самі сабой. Фінансавая дапамога і ўсякае садзейнічанне вашым справам забяспечаны. Смела працягвайце плаванне па бурным моры бізнесу.

ШАЛІ стомяцца дагаджаць новаму начальству, якое ўсім незадаволена і да таго ж запальчывае. Набярыцеся крышачку цярпення і не ўхіляйцеся ад адказнасці. Вашы таленты не застануцца без увагі, і ў хуткім часе хмары знікнуць з вашага службовага небасхілу. У вас паявіцца жаданне адпачыць ад спраў, але ўсё ж лепш пачакаць з адпачынкам і працягваць каваць жалеза, якое пакуль яшчэ не астыла.

СКАРПІЁНЫ будуць на поўную моц змагацца за фінансавае шчасце, але, на жаль, вялікіх вынікаў у гэтым так і не дасягнуць. Да таго ж давядзецца адмовіцца ад цікавай паездкі і ўвогуле забыць пра адпачынак. Настаўнікі і журналісты, на жаль, могуць апынуцца на грані таго, што пакінуць работу па сямейных абставінах. Таму парада планет усім Скарпіёнам: больш увагі ўдзяляць асабістаму жыццю і адносінам з роднымі, ад якіх, выходзіць, залежыць усё астатняе.

СТРАЛЬЦЫ будуць вымушаны шукаць кампраміс абсалютна ва ўсім і толькі ў гэтым выпадку дабівацца поспеху. У школьных работнікаў, журналістаў і урачоў паявяцца прапановы аб новай рабоце. Чакаецца важная дзелавая сустрэча, на якой распрацуеце стратэгію будучых крокаў у бізнесе. Дзелавая актыўнасць на гэтым тыдні акажацца вельмі паспяховай. Дзейнічайце і вы выйграеце.

г. Дэлі. **Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР—ТАСС.**

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем з 45-годдзем* ***Тамару Васільеўну АСТАШОНАК.***

«Пусть твоя душа
не знает холода,
Как теплый день,
как сад в цвету,
Пусть будет сердце
вечно молодо,
Добром встречая
доброту».

**Бацькі, сёстры,**
г. Мінск.

*Віншуем з днём нараджэння* ***Захара Лазаравіча СМІРНОВА.*** *Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця і добрага настрою.*

**Жонка і дачка Юля,**
в. Застарынне.

*Віншуем добрага чалавека* ***Уладзіславу Станіславаўну ІЛЬЯСЕВІЧ*** *з 40-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту.*

**Падворныя,**
в. Зябкі Глыбоцкага раёна.

*Сардэчна віншуем любую ўнучку* ***Таццяну АЛЕЙНІКАВУ*** *з г. Мінска з днём нараджэння і паступленнем у тэхнікум. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у вучобе, шчасця.*

**Дзядуля, бабуля Крыты.**



## КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях:** 4. Раённы цэнтр у Магілёўскай вобласці. 7. Буйны цэнтр хімічнай прамысловасці на Беларусі. 10. Пачатак спартыўнага спаборніцтва. 11. Сельскагаспадарчая тэхнічная культура. 12. Цвёрдая папяровая маса — матэрыял для вырабу чамаданаў, сумак і г.д. 17. Прамысловая рыба сямейства акунёвых. 18. Тонкая непрадзеная нітка расліннага, мінеральнага або штучнага паходжання. 19. Атрутнае паўднёваазіяцкае трапічнае дрэва. 22. Вялікі расійскі вучоны-энцыклапедыст і асветнік XVIII ст. 23. Галіна народнай гаспадаркі, звязаная з перавозкай грузаў і пасажыраў. 25. Буйная стэпавая птушка атрада жураўлепадобных. 26. Мінерал, які складаецца з вуглякіслых солей кальцыю і магнію. 27. Рака на Беларусі, правы прыток Дняпра. 30. Хімічны элемент, інертны газ. 31. Дробнае насякомае — шкоднік раслін. 32. Распаўсюджаная дзіцячая хвароба. 35. Асоба, якая пасылаецца адным з ваюючых бакоў для перамоваў з праціўнікам. 36. Месца прыпынку паяздоў і іншых транспартных сродкаў.

**Па вертыкалях:** 1. Вечназялёнае хваёвае дрэва, якое расце пераважна ў Паўночным паўшар'і. 2. Лётчык-касманаўт, наш зямляк, двойчы Герой Савецкага Саюза. 3. Напрамак свету. 5. Шырока распаўсюджаны мінерал, двухвокіс крэмнію. 6. Ядавітая змяя трапічных краін. 8. Верхні слой зямной атмасферы, які размяшчаецца над трапасферай. 9. Механічнае прыстасаванне для перамяшчэння грузаў. 13. Востраў Малайскага архіпелага ў Інданезіі. 14. Прыбярэжнае суднаходства паміж партамі аднаго мора. 15. Адзін з відаў барометра. 16. Друкарская форма з адбіткам набору. 20. Прыбор для вымярэння глыбіні мора з борта карабля. 21. Вялікая рака ў Кітаі, Індыі, Пакістане. 24. Вышэйшы заканадаўчы орган дзяржавы з выбарных прадстаўнікоў. 28. Спартыўная прылада для спаборніцтваў у кіданні. 29. Момант старту паветранага судна. 33. Невялікая раўніна, узнятая над узроўнем мора. 34. Вялікая краіна ў Паўднёвай Азіі.

**Склаў Аляксандр САНКЕВІЧ.**
г. Мінск.

## КРЫПТАГРАМА

Прачытайце зашыфраванае ў крыптаграме слушнае народнае выслоўе. Але спачатку разгадайце чатыры ключавыя словы. А потым замест аднолькавых лічбаў падстаўце адпаведныя ім аднолькавыя літары.

а) 2-12-5 — верхняя частка тулава чалавека;

б) 3-7-1-11-13 — частка сцябла расліны, дрэва, з якой вырастае ліст;

в) 8-10-6-11-9-10 — закрытае памяшканне спецыяльнага прызначэння;

г) 4-7-13 — медная манета Залатой Арды (XII—XV ст ст.).

**Склаў Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ.**

г. Мінск.




## КРЫЖАВАНКА НААДВАРОТ

У сетку крыжаванкі трэба правільна ўпісаць словы, якія прыведзены ніжэй: кадр, таксатар, Спітак, старт, адліў, крыжачок, запеў, Тула, сакля, цалік, астэроід, практыкум, каня, атам, трагладыт, факстрот, залёты, Котлас, траса, акорд, парк, фара, кісларод, анемометр, слава, толь, воўна, халаднік, Атава, манаполія, Сапея, кажух, Маўглі, лінолеум, Сарагоса, мяжа.

Каб дапамагчы выканаць гэта заданне, дадзены чатыры літары: у слове № 1 — Т, у слове № 5 — Д, у слове № 19 — Ё, у слове № 27 — Ж.

**Даслаў крыжаванку В. ДВАЦКІ.**

Ашмянскі раён.

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка (12 верасня).** **Па гарызанталях:** 1. Крот. 4. «Маяк». 6. Узлянка. 9. Лаўр. 10. Слуп. 11. Асаднік. 12. Сноў. 14. Адур. 16. Папка. 19. «Слава». 21. Шпага. 23. Трава. 26. Раса. 28. Трал. 30. Таверна. 31. Жабо. 32. Карп. 33. Сенакос. 35. Кава. 36. Айва. **Па вертыкалях:** 1. Колас. 2. Тураў. 3. Яя. 4. Маска. 5. Купер. 7. Луанда. 8. Нансук. 13. Орша. 15. «Дума». 16. Пат. 17. Пра. 18. Аша. 20. Луза. 22. Гута. 24. Рыдван. 25. Вятрак. 26. Рыжык. 27. Атоса. 28. Такса. 29. Лапта. 34. Ар.

**Крыптаграма (12 верасня).** Ключавыя словы ў ёй: веча, такса, доля, цунамі. Зашыфраваная прымаўка такая: «Сусвет асвятляецца сонцам, а чалавек — ведамі».

**Якая лічба? (12 верасня).** Літарамі былі заменены наступныя лічбы: A=4, B=9, C=16 Д=5, E=2, Ф=7, Ж=8, H=3, I=6. Замест пытальніка павінна быць лічба 2.

## СТРЭЛКІ

На малюнку ўверсе — восем стрэлак, якія «ляцяць» у розныя бакі. Не хапае дзевятай. Вызначце логіку падбору стрэлак і з ніжняга малюнка выбярыце тую стрэлку, якая павінна замяніць знак пытальніка.




## КАЛЕЙДАСКОП

● У Інтэрнэце з'явілася аб'ява аб тым, што нейкая амерыканская фірма прадае ўчасткі на Месяцы, прычым вельмі танна: за 17 долараў можна набыць 1778 гектараў. На рэкламу ўжо адгукнуліся сем тысяч пакупнікоў.

● Фізічныя практыкаванні карысныя для здароўя толькі ў тых выпадках, калі выконваюцца добраахвотна. Як паказалі даследаванні групы амерыканскіх вучоных, у мышэй, якіх прымушалі бегаць па кругу, значна аслабеў імунітэт. А ў мышэй, якія бегалі па кругу не менш, але па сваёй ахвоце, імунітэт павысіўся.

● З мінулага года ў Стакгольме праводзіцца незвычайны эксперымент. Адна са шведскіх тэлефонных фірмаў прапаноўвае міжгароднія размовы пры адной умове: кліент пагаджаецца з тым, што размова час ад часу будзе перапыняцца рэкламнымі паўзамі. Такі самы эксперымент праводзяць японскія і нямецкія тэлефаністы. Напрыклад, японская тэлефонная кампанія прапаноўвае сваім кліентам гаварыць бясплатна пры ўмове, што кожныя дзве хвіліны яны будуць выслухоўваць 20 секунд рэкламы.

**Па матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

## ЧАРАДЗЕЙНЫ СРОДАК ДЛЯ МЫЦЦЯ ДАРОГ

Дзякуючы празмерна назойлівай рэкламе кожны з нас ведае, як можна вывесці пляму з абруса ці хутка вымыць гару тлустага посуду. А што рабіць, калі тлушчам залілі аўтастраду?

Непадалёк ад амерыканскага горада Цынцынаці на шашу перакулілася цыстэрна з тлушчам. Дарога пакрылася непрыемным слоем у 5 сантыметраў таўшчынёй. Трое сутак рамонтнікі змагаліся з тлушчавым пакрыццём: ачышчалі лапатамі, пасыпалі пяском, змывалі вадой пад вялікім напорам. Але нічога не дапамагала, дарога была слізкай, як каток. І тут нехта ўспомніў пра вадкасць для мыцця посуду — гэта быў апошні шанц. На забруджаныя ўчасткі шашы вылілі больш як 3 тоны мыйнага сродку, пацёрлі шчоткамі і ўсё змылася. Шаша стала як новая.

## НАЧНОЕ ТАКСІ

У Екацярынбургу адраджаецца прафесія рамізніка. Нягледзячы на вялікую колькасць машын, жыхары горада з вялікай ахвотай карыстаюцца гужавым транспартам, якім кіруе Сямён Чапрук.

Уначы, калі рух на дарогах прыпыняецца, ён выязджае на брычцы падбіраць позніх пасажыраў. За ноч Чапрук падвозіць пяць-шэсць паўночнікаў, якія не маюць грошай на машыну. Дабрадушны фурман згаджаецца на пяць, тры і нават два рублі. Часам пасажыры расплачваюцца з возчыкам прадуктамі, што таксама цалкам яго задавальняе.

**Па матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Агульны тыраж 92.132.
Індэкс 63850.
Зак. № 5582.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12